PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1867) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 23 ЛЮТАГА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



**Родныя краявіды. Над Нараўкай.** *Фота Я. Целушэцкага.*

## РАДЫЁ ВАРШАВА ПА-БЕЛАРУСКУ

„Дзяржавы рэкламуюць сябе быццам парашок для мыцця. Купляюць цэлыя старонкі ў папулярных газетах і расхвальваюць сваю вартасць. На мове прафесіянальнай рэкламы называецца гэта пабудовай свайго „image", значыць вобразу. Польшча таксама рушыла ў бой". Так піша ў тыднёвіку „Polityka" ад 1 лютага г.г. Вітальд Паўлоўскі. Прыводзіць ён таксама цану рэкламы ў амерыканскім тыднёвіку „Time". У палове мінулага года Польшча за тры інфармацыйныя ўкладкі заплаціла 600 тысяч долараў.

Іншым сродкам для ўсялякае рэкламы, можа нават больш папулярным чымсьці друкаванае слова, з'яўляецца радыёвяшчанне. Прыкладам такіх ствaральнікаў станоўчага вобразу сваіх краін могуць быць добравядомыя ўсім „Голас Амерыкі" ці „Радыё Масква". Адзін мой знаёмы ў Рыме працуе ва ўкраінскай праграме дзяржаўнага італьянскага радыё. Яшчэ ў 1988 годзе, калі пра Украіну як самастойную дзяржаву ніхто нават і не думаў, з Рыма штодзень трансляваліся некалькігадзінныя ўкраінскамоўныя перадачы. І так робяць усе краіны Заходняй Еўропы — будуюць свой „image".

Сетку сваіх рознамоўных перадач для замежжа разбудоўвае цяпер таксама Польшча. Колішняе „Радыё Палонія" летась было перайменавана ў Пятую праграму Польскага радыё. Праграма гэтая накіраваная выключна за мяжу. У сувязі з бурлівымі зменамі ў нашай частцы Еўропы і эмансіпацыяй народаў былога Савецкага Саюза вялікі націск кладзецца на інфармацыю пра Польшчу на ўсход.

Ад 1 ліпеня мінулага года транслююцца з Варшавы перадачы на літоўскай мове, затым пайшлі праграмы па-ўкраінску. 15 снежня мінулага года пайшла ў эфір першая перадача па-беларуску, усяго 12-хвілінная. Ад 15 студзеня г.г. беларускія праграмы ўжо даўжэйшыя, 25-мінутныя, ды транслююцца два разы ў дзень, раніцай і ўвечары.

Беларуская рэдакцыя змяшчаецца ў двух пакойчыках вялікага будынку Польскага радыё, што ля перакрыжавання вуліцы Мальчэўскага і Алеі Незалежнасці ў Варшаве. У адным пакойчыку стаяць столікі і шафкі рэдактараў, ляжаць

( Працяг на стар. 2 )

## СКРЫЖАВАННЕ СВЕТУ - ПАРЫЖ ПЕРАКРЭСЛІВАЕ БЕЛАРУСЬ

У парыжскай газеце „Le Figaro" ад 28 жніўня 1991 года змешчаны артыкул прадстаўніка французскай акадэміі Элен Карэр д'Анкос „Беларусь — вынаходства савецкай улады", у якім, у прыватнасці, паведамляецца:

*„Беларусь з насельніцтвам 20 мільёнаў чалавек была таксама захоплена вялікай хваляй незалежніцкіх памкненняў. Аднак, у адрозненні ад Украіны, Беларусь не мае ярка выражаных нацыянальных асаблівасцей. Беларуская нацыя не мае сваёй гісторыі. Беларуская мова была штучна сфабрыкавана на падставе мясцовых гаворак савецкімі ўладамі ў 20-я гады. Стварэнне гэтай штучнай Беларускай дзяржавы, каб аслабіць сапраўдныя нацыі і паставіць іх у тыя ж умовы, што і штучная нацыя, гучыць як іронія гісторыі. Савецкая ўлада здолела ў рэшце рэшт пераканаць беларусаў, што яны існуюць як нацыя. У 1991 годзе Беларусь хоча быць незалежнай і выстаўляе нават да сваіх суседзяў тэрытарыяльныя прэтэнзіі, вакол якіх бушуюць страсці, можа загаварыць і зброя..."*.

Стоп! Далей ехаць няма куды. Як у казцы: чым далей, тым страшней і непраўдзівей. Чалавеку ўласціва памыляцца. Humanum errare est. Але каб менш чым у ста словах выказаць такое, што самаму зацятаму фантасту і ў сне не прысніцца, гэта трэба ўмець. Чаго тут больш у гэтым „маляўнічым" пасажы: дрымучага невуцтва ці чорнага гумару? І належыць гэта „адкрыццё" супрацоўніцы адной з найбольш аўтарытэтных навуковых устаноў — Французскай акадэміі, якая яшчэ у XIX ст. рашуча вырашала не разглядаць любы праект вечнага рухавіка, а яго вынаходцу аб'яўляць вар'ятам. Цікава, чым былі навеяны думкі пані Карэр, ад якіх аддае чарнасоценным рускім шавінізмам.

Дзіўна, словам пані Карэр падтаквае французская „Le Mond", якая ў сваім перадавым артыкуле ад 27 жніўня г.г. апавядае: „Але як, напрыклад, можна адмовіць заўтра ў незалежнасці Украіне, калі гэта рэспубліка па волі Сталіна і праз недагляд Захаду ўжо мае месца сярод Аб'яднаных Нацый? Тое ж самае, дарэчы, і з Беларуссю, нацыянальныя асаблівасці якой больш чым сумніцельныя..."

Здавалася б, даўно ўжо канулі ў вечнасць тыя часы, калі ў Расіі падобна персанажу адной з камедый рускага драматурга Фанвізіна здзіўляліся, няўжо і малыя ў Франціі гавораць па-французску, а на Захадзе прастадушныя прастакі блыталі Беларусь з Барусіяй або з Прусіяй. Няма сумнення, што ёсць на свеце людзі, якія і не падазраюць не толькі аб існаванні Беларусі, але і Францыі, нягледзячы на непараўнальна большую яе вядомасць і папулярнасць. Але мала хто з вучняў няпоўнай пачатковай школы адважыцца прызнацца ў гэтым, выказаўшы сваё невуцтва.

Можна з усёй упэўненасцю дапусціць, што ні аўтары згаданых артыкулаў, ні журналісты гэтых прэстыжных газет не ведаюць, што землі паўднёва-заходняй Беларусі некалі належалі прарадзіме славян і звязаны з так званай пражскай культурай, што ў V — VIII ст.ст.н.э. тэрыторыю Беларусі займалі славянскія плямёны, з якімі генетычна звязаны саюзаплеменныя і раннефеадальныя этнапалітычныя аб'яднанні наступных стагоддзяў — дрыгавічы, радзімічы, полацкія крывічы, часткова валыняне, драўляне і севяране. Ну, а тое, што з сярэдзіны XIII да XV ст. Беларусь уваходзіла ў склад паліэтнічнай феадальнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, член Французскай акадэміі хоць краем вуха павінен быў чуць. Або што на беларускай мове былі падрыхтаваны і выдадзены адзін з першых у сярэдневяковай Еўропе сістэматызаваны звод законаў ва ўсіх

( Працяг на стар. 6 )

## НА МЯЖЫ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
### ЧАСТКА IV

Успрыманне беларусамі рэлігіі не як палёгкі, а як свайго роду баласту ёсць з'явай паўсюднай. Зрэшты, не толькі рэлігіі, бо тое ж самае адносіцца і да нацыянальнай свядомасці. Для вялікай часткі карэнных беларусаў, не гаворачы аб нацыянальных меншасцях, беларуская свядомасць з'яўляецца дадатковым баластам, абцяжваючым іх свядомасць. На жаль, вельмі вялікая катэгорыя беларусаў здавальнялася поўнасцю свядомасцю і пачуццямі савецкага чалавека, які быў па сутнасці рускім чалавекам.

І калі я сёння выступаю за рэлігійнасць беларускага грамадства, дык раблю гэта перад усім таму, што веру: разам з рэлігійнасцю прыйдзе ў душы беларусаў і нацыянальная свядомасць. Аднак, магло б гэта стацца толькі тады, калі касцёл і царква стануцца поўнасцю нацыянальнымі ўстановамі, а да такога стану рэчаў пакуль што вельмі далёка. Партыйнасць, на маю думку, прапала на многія дзесяткі гадоў. Не веру, каб на працягу найбліжэйшага пяцідзесяцігоддзя ўзнікла ў Беларусі якая-небудзь масавая партыя.Народ у партыі ўжо не пойдзе, дык няхай ідзе ў нацыянальную святыню. Аднак, для гэтага неабходная свайго роду новая хрысціянізацыя, якую можна назваць евангелізацыяй. Думаю, што такія мерапрыемствы ў адносінах да таго, хто ўжо зацвярдзеў у сваім атэізме, будуць мала эфектыўнымі. І таму можна ўскладаць надзею толькі на тое пакаленне, якое сёння паяўляецца на беларускай зямлі, або на тых беларусаў, якія маюць сёння ўсяго некалькі гадоў. Калі яны сутыкнуцца з сур'ёзнай і прыхільнай трактоўкай рэлігійных праблем ужо ў яслях і ў першых класах школы, калі рэлігійныя праблемы будуць паяўляцца па радыё і тэлебачанні не ў такой інтэрпрэтацыі як было дагэтуль, а ў сур'ёзнай трактоўцы, дык у душах маладых беларускіх грамадзян паявіцца да іх прыхільнасць. Аднак, у гэтым усім патрэбна развага. Перад усім евангелізацыю Беларусі ўяўляю сабе выключна на родным, а не на чужым слове. Па-другое, не павінна яна перайсці ў клерыкалізацыю. Беларусь не павінна паўтарыць памылкі, якія сёння робіцца ў Польшчы. Практыка клерыкальнага таталітарызму давяла б да адваротных вынікаў і супрацьставіла б нашу краіну заходнееўрапейскім краінам.

Гаворачы шчыра, бачу ў гэтай справе вялікія цяжкасці. Галоўная з іх звязана з антырэлігійнай этыкай, пануючай у высокакансумпцыйных краінах Заходняй Еўропы. Сёння, ці мы гэтага хочам, ці не, зрок маладых скіраваны на Захад. Маладыя Усходу хочуць быць як маладыя Захаду. Сказанае адносіцца да вопраткі, танца, песні, ежы. Да ўсяго, у тым ліку і да рэлігійнасці. Я ўжо гаварыў, што рэлігійнасць заходніх грамадстваў, можа апрача іспанцаў, вельмі слабая, і такая філасофія, несумненна, можа агарнуць і беларускую моладзь. Калі б нават удалося зрабіць толькі малое, дык рабіць варта хаця б з увагі на тое, што будучыя пакаленні беларусаў павінны пазнаць культуру чалавецтва, а рэлігіі ў культурах адыгрывалі і ў далейшым адыгрываюць істотную ролю.

Мне вельмі спадабалася тое, што робіць дзіцячы часопіс „Бярозка”. Даваў ён у адрэзках „Біблію”, у дасканалым перакладзе на беларускую мову і з цікавымі ілюстрацыямі. Вось гэта і ёсць шлях да азнаямлення маладых беларусаў з рэлігійнай праблематыкай.

Яшчэ раз падкрэсліваю: увесь час гаворачы аб рэлігійнасці беларускага грамадства, хацелася б, каб вядучыя рэлігіі ў Беларусі адыгрывалі такую патрыятычную ролю, якую адыгрывалі і адыгрываюць яны ў палякаў і рускіх. Каталіцызм у палякаў памог ім не загінуць. Няхай вядучыя рэлігіі ў Беларусі дапамогуць нам радзіцца.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

********************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Беларусь** выступіла з прапановай прыняць яе ў **Міжнародны валютны фонд**. Згодна з абавязваючай працэдурай просьба Беларусі будзе спачатку разглядацца радай дырэктараў Фонду, якая потым перадасць рэкамендацыі ў гэтай справе адміністрацыйнай радзе МВФ.

**У Варшаве** 8 лютага падпісана пагадненне з Рэспублікай Беларусь у справе транспартнага супрацоўніцтва. Датычыць яно перш за ўсё аўтамабільнага, чыгуначнага і авіяцыйнага руху, а ў будучым — стварэння новых гранічных прапускных пунктаў. Пагадненне прадбачвае, што ў першым паўгоддзі Беларусь атрымае 3 тысячы дазволаў на ўезд у Польшчу грузавікоў і аўтобусаў. Летам будзе адкрыты над Менскам паветраны калідор для самалётаў ПЛЛ „Лёт”, а ўзамен жыхары Беларусі будуць карыстацца міжнародным аэрапортам Акенце, як транзітным пунктам у падарожжах у ЗША і Канаду. Беларусь зацікаўлена адкрыць чыгуначныя лініі Брэст — Беласток і Берлін — Варшава — Брэст — Менск.

Ад 7 лютага курсіруе новы **міжнародны пасажырскі цягнік з Саколкі ў Менск** праз Кузніцу, Гродна і Ліду. Шэсць спальных вагонаў адпраўляюцца з Саколкі па панядзелках, серадах і пятніцах а гадз. 14.50 і прыязджаюць у Менск а гадз. 3.00. З Менска цягнік выязджае а гадз. 5.00 і прыбывае ў Саколку а гадз. 14.20.

**III сустрэча ўдзельнікаў форума ваяводаў Усходняй Сцяны** адбылася ў пятніцу 14 лютага ў Холме, з удзелам **Вайцеха Владарчыка**, шэфа Управы Рады Міністраў. Тэма сустрэчы — тэхнічны бок функцыянавання гранічных прапускных пунктаў, абмеркаванне планаў іх разбудовы і адкрыцця новых. Разглядаліся таксама мэтазгоднасць утрымоўвання гранічнай паласы і правілы надзелу сродкаў на гаспадарчую дзейнасць у гранічнай зоне. Самае важнае пытанне, якое ставілася на сустрэчы, гэта кампетэнцыі ваяводаў у галіне заграгічных кантактаў.

**„Гродполь”** — гэта супольнае прадпрыемства, створанае ў Гродне польскімі фірмамі „Д'ёра” і Радамскай фабрыкай тэлефонаў і беларускім Прадукцыйна-тэхнічным трэстам сувязі. Прадпрыемства прадукуе мэблю, электронныя вырабы, сродкі сувязі, аргтэхніку, займаецца пашыўкай адзення і арганізацыяй міжнароднай турыстыкі, гандлем, маркецінгам і пасрэдніцтвам, забяспечвае гасцінічныя паслугі. „Гродполь” раз на квартал арганізуе для мясцовых і польскіх бізнесменаў выстаўкі і семінары.

У панядзелак, 10 лютага, **настаяцель прыхода ў Нараўцы паведаміў паліцыю аб узломе ў царкву**. Зладзеі, заламаўшы бакавыя дзверы, укралі восем ікон з XIX і пачатку XX стагоддзяў.

**У Гайнаўцы** быў арыштаваны жыхар Варшавы, які прывёз з сабою гарэлку нелегальнага разліву і прабаваў здаць яе ў гандлёвую сетку. Раней у адным з вясковых магазінаў каля Бельска-Падляшскага былі арыштаваны два мужчыны, таксама з Варшавы.

## РАДЫЁ ВАРШАВА ПА-БЕЛАРУСКУ

**( Працяг са стар. 1 )**

розныя паперы, слоўнікі і ўсялякія іншыя дапаможнікі, у другім — мантажны стол. Працуе тут 7 асоб, усе на паўштату, усе яшчэ студэнты. Моўным кансультантам з'яўляецца навуковы супрацоўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Ніна Баршчэўская. Напачатку яе прысутнасць і дапамога была неабходнай.

Галоўнае заданне, пастаўленае гэтай праграме: інфармаваць людзей на Беларусі пра гаспадарчыя і грамадска-палітычныя змены ў Польшчы апошніх гадоў. Трэба таксама многа ўвагі прысвячаць беларускай меншасці ў Польшчы ды адносінам між беларусамі і палякамі. У сувязі з адраджэннем на Беларусі рэлігійнага жыцця і вялікай цікавасцю людзей да рэлігійнага пытання, рэкамендуецца журналістам часта звяртацца да гэтай тэматыкі.

Найбольш інфармацый рэдактары бяруць з „Radio Aktualności”. Выбіраюць самыя цікавыя весткі, перакладаюць іх на беларускую мову і потым чытаюць у студыі. Працуюць пасля поўдня, ад гадзіны чацвёртай да паловы сёмай. Даўжэй застаецца дзяжурны, каб нанесці папраўкі ў вестках, калі будзе такая патрэба.

Калі я наведваю рэдакцыю, праграму рыхтуюць тры асобы: Яанна Куна, Ялантa Марціновіч і Марцін Смялоўскі — усе студэнты беларускай філалогіі.

Прэм'ера перадач увечары. Раніцай звычайна яны паўтараюцца. Але некаторыя фрагменты, дзеля большай актуальнасці, мяняюцца. Вечарам часта даецца агляд польскай прэсы, раніцай — больш агульныя каментарыі. Некалькі мінут адводзіцца музыцы.

Цяпер, калі рэдактары набываюць вопыт, стараюцца больш інфармацыі здабываць самастойна. Напрыклад, Яраслаў Іванюк запісаў на магнітафонную плёнку істотныя моманты II кангрэса Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, браў інтэрв'ю ў людзей.

— Ці ёсць нейкія формы цэнзуры, націскаў з боку кіраўніцтва радыёвяшчання? — пытаюся ў прысутных журналістаў.

— Адзіны ўказ, які мы атрымалі напачатку, — кажа Ася Куна,— гэта аб'ектыўна паказваць рэчаіснасць Польшчы. Нічога не прыхарошваць, не прысалоджваць. Але мы мусім трымацца аднаго прынцыпу: не раз'ятрываць, не дражніць слухачоў. Калі ёсць нейкія складаныя падзеі, трэба старацца паказаць іх як мага больш далікатна, каб нікога не закрануць, не абразіць.

Пакуль што беларускай рэдакцыі V праграмы Польскага радыё гэта ўдаецца, бо ніхто на іх яшчэ не скардзіўся. Але не было яшчэ і станоўчых водгукаў на іхнюю працу. Гэтага ім менавіта не хапае. Калі б прыходзілі лісты слухачоў з заўвагамі, з прапановамі тэмаў перадач — напэўна быў бы гэта стымул да працы, гаворыць мне ў беларускай праграме. А так, можа з'явіцца пачуццё, што гаворыш упустую.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

Зацікаўленыя праграмамі на беларускай мове з Варшавы могуць іх слухаць у 5.30 раніцай (паводле сярэднееўрапейскага часу, як цяпер у Польшчы) на сярэдняй хвалі 200 м і на кароткіх хвалях 41,99 м і 49,22 м (частотнасці: 1503, 7145, 6095 КГц) ды ў 19 гадзін на кароткіх хвалях 25,39 м, 41,27 м і 49,22 м (частотнасці: 11815, 7270, 6095 КГц).

Лісты можна слаць па адрасу:

Polskie Radio dla Zagranicy
Redakcja Białoruska
Warszawa, indeks 46.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- БГКТ паміж молатам і кавадлам.
- Дзеля долараў–карэспандэнцыя Яна Максімюка з Нью-Йорка.
- „Кругавая чара”–новы паэтычны зборнік Яна Чыквіна.
- У Жыровіцкім манастыры.
- Міхась Баканач–майстар на ўсе рукі.

# СВЯТЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## *Святы прападобны Яфрэм Смаленскі*

Святы прападобны Яфрэм Смаленскі быў верным вучнем і паслядоўнікам святога Аўраама. У маладых гадах уступіў ён у смаленскі манастыр і там правёў сваё жыццё. Ведаем, што святы Яфрэм прабываў у манастыры Палажэння Рызы Прасвятой Багародзіцы, калі ігуменам быў прападобны Аўраам. Там Яфрэм вёў аскетычнае жыццё, пазнаваў жыціі святых (асабліва „Жыціе Феадосія Пячэрскага" і „Жыціе Барыса і Глеба"). Пасля смерці Аўраама (1222 год) сам пачаў пісаць жыціе прападобнага. Пісаў яго ў 1222—1238 гадах, выкарыстоўваючы багатую рэлігійную літаратуру, між іншым, „Жыціе Аўраама Затворніка". Яфрэм дасягнуў вяршыню ў галіне апрацоўкі жыцій святых у мастацкім і літаратурным сэнсе. Памёр ён у 1238 годзе і пахаваны быў у грабніцы саборнай манастырскай царквы. Над яго магілай, таксама як над магілай прападобнага Аўраама, вернікі атрымоўвалі цудоўнае выздараўленне.

Кананізуючы прападобнага Яфрэма Смаленскага ў 1547 годзе, Праваслаўная Царква ўстанавіла 21 жніўня днём яго памяці.

АНТОСЬ МІРАНОВІЧ

# КРЭСЫ І ПАГРАНІЧЧА

Пад канец снежня мінулага года ў Ольштыне адбылася навуковая канферэнцыя на тэму „Крэсы і пагранічча. Культура. Гісторыя". Арганізатарамі яе былі Інстытут гісторыі і польскай філалогіі мясцовага пединстытута (ВСП) і Інстытут гісторыі Варшаўскага універсітэта. У дакладах закраналіся пытанні паўночна-ўсходніх крэсаў Рэчыпаспалітай у XIX і XX стагоддзях і, як няраз падкрэслівалася, справа не ў тым, каб абуджаць рэсентыменты і рэваншызм, а каб наблізіць атмасферу, якая натхняла палякаў на вялікія подзвігі, якая пакінула глыбокі адбітак у літаратуры і мастацтве. Крэсы вучылі талерантнасці да іншых нацый, а міжнацыянальныя канфлікты былі ўсяго эпізодамі ў сужыцці з беларусамі, украінцамі, яўрэямі, армянамі, татарамі і караімамі. Добрае разуменне мінулага дапаможа лепш зразумець суседзяў — беларусаў, украінцаў і літоўцаў — якія зараз пачынаюць сваё незалежнае дзяржаўнае існаванне.

Прафесар Станіслаў Шастакоўскі паказаў у сваім дакладзе на крыніцу негатыўнага феномену, які зрабілі варожымі польска-літоўскія адносіны ў II палавіне XIX стагоддзя. Прычынай гэтага былі літоўскія часопісы, якія выдаваліся ў Прусіі. Адыгралі яны велізарную ролю ў станаўленні літоўскай дзяржаўнай і нацыянальнай свядомасці, але ніколі аб Польшчы і паляках добра не пісалі.

Аб праніканні культур расказала д-р Зофія Ярашэвіч-Пераслаўцава з ольштынскай ВСП. Вынікам сутыкнення Захаду з Усходам з'яўляюцца кірылічныя „паленікі". У XVI ст. у Рэчыпаспалітай была выдадзена палова ўсіх царкоўнаславянскіх выданняў. Даклад аб „Літаратурным асяроддзі Міншчыны" падрыхтаваў д-р Тадэуш Зянкевіч з ВСП. Паказаў ён на з'яву папаўнення культур на беларускім грунце, што знайшло, між іншым, адлюстраванне ў двухмоўнай творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ці Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны). Чарговыя даклады закранaлі наступныя тэмы: вобраз Літвы ў творчасці Часлава Мілаша; польскасць, расейскасць і еўрапейскасць у Тадэуша Канвіцкага; Зофія Коссак-Шчуцкая аб крэсах Рэчыпаспалітай; правіцыянальны друк у Галіцыі (1848-1918).

Як выснова канферэнцыі прагучала сцвярджэнне, што ў дарозе ў супольную Еўропу нельга забываць свае карэнні. Трэба паглядзець і на ўсход, шукаючы ўласную тоеснасць і дарогу ў будучыню без граніц.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

АДГАЛОСКІ

## ШТО ЗНЕРВАВАЛА ПРАФЕСАРА САДОЎСКАГА?

Калі прачытаў я першыя старонкі кніжкі прафесара Анджэя Садоўскага „Narody wielkie i male", падумалася мне, што варта, каб пазнаёміўся з яе зместам кожны, хто бярэ голас у беларускіх справах. Кніжка спадабалася мне перад усім таму, што яе аўтар стараўся даць сумленны адказ на шмат якія асноўныя пытанні, што суправаджаюць беларускае існаванне на Беласточчыне ў XX стагоддзі. Выданні пра беларусаў, а ў прыватнасці навуковыя ды напісаныя без палітычнай мэтанакіраванасці аўтара — гэта вельмі ўнікальная з'ява. Таму кніжку прафесара Садоўскага, за навуковаю творчасцю якога я сачу і нярэдка карыстаюся ёю, прыняў я з нескрываным энтузіязмам.

Навуковая публікацыя, як і ўсякая іншая, характэрная тым, што кожны можа яе перачытваць ды ацэньваць са свайго пункту гледжання. Не даводзілася мне дагэтуль сустрэцца з такою навуковай публікацыяй, асабліва ж з гісторыі, псіхалогіі, ці сацыялогіі, якая канчаткова распрацоўвала б якуюсьці праблему, ад пачатку да канца была дасканалай, а зробленыя ў ёй высновы не падлягалі штораз верыфікацыі. Калі б так не было — навуковая тэорыя пераўтваралася б у штосьці накшталт рэлігійнай догмы.

Таму, нягледзячы на тое, што публікацыя прафесара Садоўскага мне спадабалася, не адчуваю я аніякіх абмежаванняў, якія паўстрымалі б мяне выказацца пра тое, з чым не згаджаюся. Заўваг такіх у маёй рэцэнзіі было няшмат і магчыма, што ў некаторых справах я памыліўся, але нічога з напісанага там не адклікаю.

Прафесар, спасылаючыся на свае навуковыя доследы, стварaў гэтым самым нейкія тэорыі, некаторыя з якіх з майго, суб'ектыўнага, пункту гледжання не адпавядалі рэальнасці. У такім выпадку або тэорыя спадара Анджэя Садоўскага была памылковай, або ўспрыманая мною рэчаіснасць — ілюзорнай. Магчыма таксама, што рэчаіснасць зусім іншая ад тае, якою яе бачу і я, і прафесар Садоўскі.

Рэцэнзію пісаў я з добрым намерам ды пашанай да навуковай кампетэнцыі спадара Анджэя Садоўскага — не падумалася мне нават, што людзі з інтэлектуальнай эліты могуць мець такія комплексы. Разумею „нашага пасла", які карыстаецца кожнай нагодай, каб „аддзячыць" мне за колішнюю крытыку яго асобы. Гэта ўсё нармальна. Не магу, аднак, зразумець нервовай рэакцыі чалавека, які — як мне ўяўлялася — павінен прывыкнуць да сітуацыі, у якой хтосьці не згаджаецца з яго поглядамі.

Заўвагі спадара Садоўскага пра маё „дылетанцтва", „нетактоўнасці і нясціпласць" трактую як крык раззлаванага чалавека, хаця ў сапраўднасці не ведаю, чаму ён злосны. Але гэта ўжо не мой клопат.

Не ведаю таксама, чаму прафесар пераконвае чытачоў „Нівы", што

( Працяг на стар. 4 )




( Працяг са стар. 3 )

метадалогію сацыялагічнага даследу ведае лепей за мяне. Я ніколі іначай і не думаў ды нават не наважыўся б параўноўваць свае здольнасці ў гэтай галіне з досведам прафесара. Ведаю, аднак, што адной метадалогіяй немагчыма накрэсліць вобраз ніякай рэчаіснасці, асабліва, калі прадметам даследу з'яўляецца чалавек або грамадства.

Зусім не разумею, якое дачыненне да маёй рэцэнзіі маюць маралізатарскія разважанні пра нядаўныя доследы навукоўцаў з Познані. Я сцвердзіў факт, прадстаўляючы яго такім, які ён у сапраўднасці, а не такім, якім хачу яго бачыць.

Пра падвойную нацыянальную свядомасць, на якую прафесар звяртае ўвагу ў сваім палемічным выступе ў „Ніве" (н-р 1, 1992), цяжка з ім дыскутаваць, бо мае ён за сабою ўсе свае анкеты і навуковыя доследы. Аднак, на аснове штодзённых кантактаў з людзьмі заўважаю, што маюць яны клопат з вызначэннем свае тоеснасці. Польскасць часта звязана з грамадзянствам, беларускасць з'яўляецца якімсьці гатункам расейшчыны, а слова „рускі", „беларускі", „праваслаўны" нярэдка трактуюцца як сінонімы. Нраз „праваслаўны паляк" цераз хвіліну сцвярджае, што ён „рускі", таму што праваслаўны, а паляк, таму што ў Польшчы жыве.

На маю думку, прычына гэтага балагану ў супярэчных ідэалагічных традыцыях, якія ад дзесяткаў гадоў сціраюцца на беларускамоўным, але выразна не самавызначаным нацыянальна матэчніку. Праваслаўе зусім не пасуе як да польскай традыцыі і нацыянальнай міфалогіі, так і не зашмат спалучаецца з беларускай ідэалогіяй, якая вырастала як запярэчанне расейшчыны, на культурнай аснове якой пабудаваная традыцыя нашага веравызнання. Фальклор і веравызнанне — гэта фактары, якія не вырашылі нацыянальных праблем жыхароў Усходняй Беласточчыны, а толькі замацавалі адчуванне іншасці ў каталіцкім грамадстве. Асноўная маса беларускамоўнага калісьці грамадства да сённяшняга дня не звязана з ніякай нацыянальнай культурай. З увагі на тое, што фальклор перастаў адыгрываць сваю ролю (заняпад вёскі), у сітуацыі недахопу беларускай асветы і канкурэнцыйнай культуры, нацыянальныя праблемы Усходняй Беласточчыны вырашацца вельмі хутка.

Не ведаю, скуль спадар прафесар даведаўся, што я хачу праваслаўных жыхароў Беласточчыны пераканаць да беларускіх вартасцяў. Магу ўжо быць дылетантам у тых ці іншых справах, але шаленцам быць не пагаджаюся. Заўсёды гавару і яшчэ раз паўтараю, што кожны чалавек павінен мець свабодны ды непрымушаны выбар нацыя-

( Працяг на стар. 5 )

# СЯРГЕЙ МАРТЫНЮК З НАРВЫ — АГРАБІЗНЕСМЕН 1991 Г.

Агульнапольскі часопіс сельска-гаспадарчага бізнеса „Agrobazar" (№ 1(11);1992) апублікаваў вынік конкурсу, які быў аб'яўлены гэтай рэдакцыяй і сельскагаспадарчай рэдакцыяй Польскага радыё на самага лепшага, звязанага з вёскай бізнесмена 1991 года. У конкурсе прыняло ўдзел 3575 асоб, з якіх 816 аддало свае галасы за Сяргея Мартынюка, дырэктара фірмы „Пронар" у Нарве. Як выявілася, атрымаў ён найбольш галасоў і стаў „Аграбізнесменам 1991 года", пакідаючы за сабою такія вядомыя постаці публічнага жыцця, як Генрык Стаклоса — адзіны не салідарніцкі сенатар у 1989-91 г.г.




Сяргей Мартынюк найбольш прыхільнікаў атрымаў за свае кантакты з Рэспублікай Беларусь. Дабіўся ён таго, што не даецца іншым прадпрымальнікам у Польшчы —увайшоў на ўсходні рынак. Удзельнікі конкурсу хвалілі С. Мартынюка за яго вялікае зацікаўленне вёскай, пастаўку для вёскі розных тавараў, у тым ліку так патрэбных трактараў па адносна невысокай цане. Не імкнецца ён да хуткага заробку, толькі сваімі разнавіднымі дзеяннямі накручвае кан'юнктуру для ўсяе гаспадаркі „Усходняе сцяны" — вельмі занядбанага рэгіёна.

Сяргей Мартынюк сказаў, што званне „Аграбізнесмен 1991 года" гэта для яго вялікі гонар. Падзякаваў тым, хто за яго галасаваў, і заявіў, што не сказаў ён яшчэ свайго апошняга слова ў сельска-гаспадарчым бізнесе. Задэкляраваў пашырэнне супрацоўніцтва з Беларуссю. А з гэтага можа быць толькі карысць для ўсяе польскае сельскае гаспадаркі.

(мв)

**************************************

# З дзённікаў С. Яновіча

**12-06-1988 г.**

Цыкл (падборка) апавяданняў у чацвертым „Miesięczniku Literackim". Пераклаў Плютовіч. Ганарар — абразліва малы.

У „Ніве" — інтэрв'ю „Краявіды з-пад воза". (...) я сам напісаў адказы.

Сёння і два тыдні назад — надпісваў на кніжных кірмашах „Białoruś, Białoruś". Зацікаўленне ёю ўжо мізэрнае. Без натоўпаў, як у мінулым годзе. Апагей за ёю.

Жахлівая „Літаратура і Мастацтва"! — Пазьняк пра генацыд беларусаў. Дыскусія на пленуме пісьменнікаў — мала чым меншая макабра.

Леанчук быў у Коўні і ў Гродне. У Літве не пачуў ён рускай мовы, а ў Беларусі... беларускай. Сёлета ён ужо — двойчы лаўрэат літаратурнай прэміі Беластоцкага Ваяводы. Меліся ўзнагароджваць і мяне... Хоць пад старасць. Дзіўныя гэтыя палякі: апазіцыянерацъ на ўсё горла і, адначасна, мала не пазабіваюцца за ўсякія ўзнагароджанні.

Праз шэраг дзён пісаў „кавалкі" пра падарожжа ў Славенію, у „Regiony" і ў „Miesięcznik L." (Тжышка настаяў). Можа і лішне, але... няма сілаў вяртацца да пачатае кніжкі (застрагнуў на 21-ай яе стар.). Не надрукуюць?

**13-06-1988 г.**

Дзень за днём навальваюцца справамі, вірують! — На апошнім пасяджэнні Канвэнта. Гаворка пра кадравую палітыку. Сказаў усё, пра дэгенерацыю сацыялізму і — у выніку — ягоную цывілізацыйную маргінальнасць (стэнаграма — у архіве WRN). Ніхто не запярэчыў, а наадварот — цытавалі пасля. Гэткае — гатоўлівае — прызнанне маім рацыям таксама неяк стамляе... Цяпер усё і ўсенька морыцъ!

Спадзяюся, што ў новай кадэнцыі не будуць прапанаваць мне ўдзельнічаць у Канвэнце... Надакучыў я ўладам.

А кніжка не пішацца. Сельвясюк падкінуў жмут матэрыялаў БАСу; здымку траўневага транспаранта — Strajkujemy z wami. Białoruscy studenci UW. І першыя непадцэнзурныя польскія публікацыі пра трагедыю беларускай нацыянальнай культуры („Horyzont"). Іх пасыплецца больш.

**18-06-1988 г.**

Чатыры дні ў Крынках; чужацкае ўжо, каланіяльнае мястэчка, фанатычна польскае (за беларускую гаворку можна ў зубы дастаць!). Часта думаю пра Літву; як яна выратавалася (?)!

Яраслаў даслаў трохі выразак. Чэрвеньскі „Przegląd Powszechny" апубл. выказванне (спачувальнае) пра „Białoruś, Białoruś".

Падала голас „Odpowiedzialność i Wiara" (№ 4). М.ін. з сімпатыяй пра выступленні dwu Janowiczów на сімпозіуме ў Лодзі. Чаго нельга сказаць пра арганізатараў, якія так усё павялі, што не было часу на шырэйшую дыскусію... Дапусцілі яны дамінацыю украінскай тэматыкі. Быў Скарадзінскі, які амаль дэманстратыўна адхінуўся ад гутаркі са мною (злосны на некаторыя погляды ў „Biełaruskich Dakumentach"?).

І „Ład" (10-01) нешта згануў, даволі слабым пяром А. Хадкевіча.

У аўторак (15-га) — паўночы з Сяргеем Астраўцовым, журналістам „Гродненской правды" ( яго гутарка з А. Кауко „Непрочитанные страницы истории" у нумары ад 11-га). Удзельнік „Паходні"; прывёз мне з паўпуда кніжак (я яму ўзамен... „крамолы"!). Цяжка гаварыць з гэтымі „нефармаламі": дзейнічаюць у трагічных умовах, больш-менш быццам пачынальнікі нашаніўскай пары, амаль стагоддзе назад (што гучыць, бы дыябальскі жарт!).

Выпадкам узяў у БГКТ чацверты „Нёман" (зменена „е" на „ё"!). У ім — Шкрабы „Много правды не бывает", добры тэкст! Беларуская патрыятычнасць рускамоўных выданняў можа рашуча паўплываць на адбудову беларушчыны. Маюць яны нармальную папулярнасць у параўнанні з „акварнай" беларускамоўных (якія, дарэчы, пераконваюць... перакана ных, а трэба экспансіі!).

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Плютовіч — Ежы Плютовіч, таленавіты польскі паэт, родам з асяроддзя т.зв. праваслаўных палякаў у Бельску; перакладчык беларускай літаратуры;*

*— „Miesięcznik Literacki" — некалі вядомы часопіс, які выдаваўся ў Варшаве пад рэдактураю У. Сакорскага;*

*— Леанчук — Ян Леанчук, таленавіты польскі паэт, які жыве ў Лубніках, што каля Заблудава; перакладчык беларускай літаратуры;*

*— „Regiony" — літаратурна-грамадскі часопіс, які выдаецца ў Варшаве пад рэдактураю Веслава Мыслівскага, вядомага польскага пісьменніка;*

*— „Przegląd Powszechny" — варшаўскі часопіс культурна-грамадскага накірунку, які выдаюць ксяндзы-езуіты;*

*— „Ład" — каталіцкі тыднёвік кансерватыўнае арыентацыі;*

*— „Нёман" — рускамоўны літаратурны штомесячнік, які выдаецца ў Менску; тады надта папулярны;*

*— „Паходня" — клуб гродзенскіх „нефармалаў", які адыграў значную ролю ў пачатках беларускага адраджэнскага руху.*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЯНОВІЧ КЛІЧА НА ДНО

Дзівосны зварот Яновіча ў артыкуле „Яновіч кліча ў адстаўку” („Ніва” ад 19 студзеня 1992 г.), не абурае, а толькі рассмешвае. У Яновіча ўжо досыць даўно выступае паталагічны комплекс на пункце старасці, з якім ён аніяк не можа пагадзіцца.

Сімптом гэтага паталагічнага комплексу даў аб сабе знаць ужо на апошнім з'ездзе БГКТ у 1988 годзе. Якраз тады Яновіч выступіў з трыбуны, гаворачы аб патрэбе адмаладжэння ўладаў Беларускага таварыства. Матывацыю такога пастулату знайшоў Яновіч у Кастрычніцкай рэвалюцыі, у якой „камандзірамі палкоў, а то і дывізій былі семнаццаці-васемнаццацігадовыя хлопцы”. Я не выступіў тады з рэплікай, хаця і хацелася мне спытаць Яновіча, чаму гэта Беларускае таварыства павінна браць прыклад з практыкі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пры гэтым хацеў я тады павучыць Яновіча, сказаўшы яму аб тым, што ў часе Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі даходзіла да баёў паміж рабоча-сялянскімі палкамі, якімі камандавалі семнаццацігадовыя камандзіры, і белагвардзейскімі афіцэрскімі палкамі, якімі камандавалі сівавалосыя палкоўнікі, а то і генералы, белагвардзейцы разбівалі ў пух і прах чырвоныя палкі. Можа ўзнікнуць пытанне, дык чаму ж у канцы канцоў перамагла рэвалюцыя? А таму, што выйшла яна з дэмагагічнымі абяцанкамі аб шчаслівым бесклапотным жыцці, у якія паверылі мільёны. А мільёнаў не маглі перамагчы ніякія генералы.

Найбольш дзіўнае, аднак, пачалося пасля таго ж з'езда на гадзіну пазней, калі стары Яновіч, запярэчваючы свайму выступленню, згадзіўся кандыдаваць не толькі ў склад Галоўнага праўлення, але і на функцыю старшыні. Праўда, на гэту функцыю ў тайным галасаванні выбраны не быў. Значыць, выступленне супраць старых было толькі тактычнай штучкай Яновіча, які верыў, што іншыя адмовяцца, а ён, нягледзячы на сваю дэкларацыю, не адмовіцца і будзе „правадыром” Таварыства. Так яно, аднак, не сталася.

Дзівосная камедыянцкая непаслядоўнасць Яновіча праявілася і на два гады пазней, калі ўзнікла партыйная група Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Здавалася б, што Яновіч, які пастарэў на два гады ад з'езда, на якім дэклараваў, што ён ужо стары і не надаецца на дзеяча, згадзіўся не толькі ўвайсці ва ўлады партыйнай групы, але даўся выбрацца на функцыю яе старшыні.

Пасля прайграных з трэскам выбараў узняўся ў партыйнай групе шум. Адзін з яе вядомых дзеячоў запрапанаваў распусціць яе як арганізацыю, якая ў выбарах поўнасцю скампраметавалася. Ад другога дзеяча даведаўся я, што „партыйныя масы” дамагаюцца адыходу „правадыра” Яновіча. Зразумела, што сілаю не будзеш мілаю — і „ правадыр” рад-няволя згадзіўся ўступіць. Пры гэтым, аднак, пастанавіў выклікаць такое ўражанне, што адыходзіць дабравольна з прычыны пажылога ўзросту і пры гэтым заклікае ўсіх старых адмовіцца ад сваіх функцый.

Шаноўны Яновіч, ты мне нагадваеш чалавека, які, скажам, развёўшыся з жонкай або страціўшы зуб, гатоў заклікаць усіх знаёмых, каб яны разводзіліся і выбівалі сабе зубы. А можа лепш цябе параўнаць з чалавекам, які топячыся крычыць, каб усе іншыя кідаліся на глыбіню і тапіліся разам з ім. У старых вельмі часта выступаў такі звычай, што вяльможы, уміраючы, загадвалі разам з іх трупамі закопваць жывых жонак. Вось да такога тыпу людзей вельмі ж падобны наш Яновіч.

Здзіўляе мяне моцна, што ідучы на дно, Яновіч заклікае туды чамусьці мяне. Мне здаецца, што дадаў бы ён сабе намнога болей аўтарытэту і прэстыжу, калі б звярнуўся да ўсіх пажылых палітыкаў у свеце, такіх, як прэзідэнт Італіі, Францыі, Германіі, ЗША і англійскай каралевы, каб ён і яны адыйшлі разам з ім. Усе пералічаныя мною палітыкі маюць каля сямідзесяці і зразумела, што не ўмеюць кіраваць так сваімі краінамі, як патрапілі б кіраваць семнаццацігадовыя камісары.

Ну, а што датычыцца мяне, дык я кіруюся воляй той арганізацыі, якая мяне выбрала, а не перадсмяротным крыкам Яновіча, і з яго запрашэння пайсці на дно не скарыстаю. Хацелася б мне сказаць проста і шчыра: кінулі цябе ў ваду твае партыйныя сябры, я цябе ў ваду не кідаў і не намерваюся да цябе ў ваду скакаць.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




( Працяг са стар. 4 )

нальнасці, айчыны, палі-тычных сімпатыяў ды ўсякай дзейнасці, якая не перашкаджае ні адзінцы, ні грамадству. Выбар гэты мусіць быць аднак сапраўды вольны, а гэта значыць, што чалавеку трэба даць шанц пазнаць усе культуры, якія яго акружаюць. У нашым выпадку гэта абазначае даць беларусу шанц пазнаць культуру свайго народу.

Пра закранутыя ў публікацыі гістарычныя справы лепш увогуле не згадваць — дзеля супакою яе аўтара.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## АБ „ПРАВАСЛАЎНЫХ ПАЛЯКАХ”

З непакоем прачытаў я артыкул Андрэя Садоўскага пад загалоўкам „Адказ на рэцэнзію”, змешчаны ў „Ніве” н-р 1 ад 2 студзеня гэтага года. Заўвагі рэцэнзента — д-ра Яўгена Мірановіча адносна гістарычных ды іншых хібаў працы пераканаўчыя. Таму вышэй успамянуты адказ быў непатрэбны. На маю думку, сфармуляваныя ў ім абагульненні складаюць акрэсленую небяспеку для ўсяго беларускага руху ў Польшчы.

Сцвярджэнне, што на этнічным паграніччы існаванне „падвойнай нацыянальнай прыналежнасці” быццам з'ява нармальная, успрымаецца як падтрымка рэнегатаў і кан'юнктуршчыкаў. Я не бачу бяды, калі першыя з іх, перапоўненыя „унутранымі канфліктамі”, адыдуць ад беларускіх нацыянальных спраў. Гэта з'ява характэрная ўсёй нашай гісторыі, а народ далей (можа, крыху павольней) жыве і развіваецца.

У аўтара адказу паявілася новая катэгорыя людзей са спалучэння нацыянальнасці з веравызнаннем:„праваслаўныя палякі”, якіх дагэтуль у дэмаграфіі і этнаграфіі не было. Былі і ёсць французы, палякі, арабы праваслаўнага веравызнання. Яны нічога супольнага з беларускасцю не маюць. Было б цікава, калі б аўтар артыкула акрэсліў вытокі беластоцкіх „праваслаўных палякаў”. Праўда, у „Ніве” н-р 15 за 1988 год К. Сідаровіч успамінае аб арганізаванні ў 1933-34 гадах у Беластоку камітэта праваслаўных палякаў, хору і нават аднаго багаслужэння на польскай мове ў царкве. Але ўсё гэта хутка распалася як чарговая правакацыя тагачасных уладаў. Можа, сапраўды існуе зараз патрэба ствараць такі камітэт для Вераў-Вэраў, Оляў-Ёляў, Нінаў-Янінаў, Уладзіміраў-Уладзіславаў, Раманаў-Рамуальдаў. У апошнія гады няма прычын, якія выклікалі ў гэтых кан'юнктуршчыкаў акрэсленую з'яву. Зараз ніхто не выганяе ў СССР, канспіравацца на месцы працы няма патрэбы. Чуцца пакрыўджанымі — таксама. Я лічу, што гэта не стан нацыянальнай свядомасці, не плынь і не працэс, як акрэслівае А. Садоўскі, а перажыўшая сябе кан'юнктура. Пазбыцца яе гэтыя

( Працяг на стар. 6 )

# КНІЖКІ,

### якія можна купіць у ГП БГКТ

Я. Чыквін. Іду. 1969, 88 с., 1000 зл.

Ул. Гайдук. Ракіта. 1971, 31 с., 1000 зл.

Я. Чыквін. Неспакой. 1977, 54 с., 1000 зл.

З. Сачко. Пошукі. 1982, 38 с., 1000 зл.

А. Барскі. Блізкасць далёкага. 1983, 109 с.,1000 зл.

М. Шаховіч. Вада ў рэшаце. 109 с., 1000 зл.

В. Петручук. Пожня. 1987, 235 с., 1000 зл.

Ю. Зубрыцкі. Рознагоддзе. 1989, 56 с., 2000 зл.

M. Hajduk. Cisz. 24 c., 3000 зл.

A. Barszczewski. Białoruska obrzędowość i folklor Wschodniej Białostocczyzny. 1990, 175 c., 20000 зл.

М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. 1990, 366 с., 10 000 зл.

Ул. Гайдук. Блакітны вырай. 1990, 32 с., 5000 зл.

З. Сачко. Над днём похіляна. 1991, 54 с., 5000 зл.

В. Швед. Родны схоў. 1991, 62 с., 5000 зл.

В. Швед. Вясёлка. 1991, 192 с., 15000

Г. Валкавыцкі. Віры. 1991, 184 с., 20 000 зл.

М. Ігнатюк. Мая зямля (песні). 1991, 28 с., 5000 зл.

# ПАДРАБЯЗНА АБ ЖАМЧУЖЫНАХ БЕЛАСТОЦКАЙ ПРЫРОДЫ

Інфарматараў аб ахоўваемых прыродазнаўчых аб'ектах Беласточчыны выйшла дагэтуль няшмат, а прынамсі не ў такой колькасці і аб'ёме, якія ў змозе здаволіць сапраўднага любіцеля прыроды. З тым вялікшым здавальненнем можна паведаміць зацікаўленым, што пры канцы 1991 г. паявілася ў продажы даволі грунтоўнае, сур'ёзнае апрацаванне праф. Аляксандра У. Сакалоўскага „Przyrodnicze obiekty chronione województwa białostockiego”. Аўтар на амаль 150-ці старонках дае агляд усіх пяці формаў аховы беластоцкай прыроды, г. зн. нацыянальнага парку (пакуль што маем адзін — Белавежскі), запаведнікаў прыроды (зараз маем 28 зацверджаных і 16 праектаваных), краявідных паркаў (два зацверджаны — Нарвянскі і Кнышынскай пушчы, а ў падрыхтоўцы трэці, які ахопіць цэлую частку Белавежскай пушчы), зоны ахоўваемага краявіду (у ваяводстве ёсць іх 6) і помнікаў прыроды (зарэгістравана іх 599; сярод іх — 521 дрэва, 19 груп дрэваў і алеяў, 59 валуноў). Кожны ахоўваемы аб'ект, нягледзячы на тое, зацверджаны ён ці толькі праектаваны, мае дакладнае прыродазнаўчае апісанне. Адны помнікі прыроды апісаны разам, што зусім зразумелае.

Важнай справай было далучэнне да кніжкі карты Беластоцкага ваяводства (з нанесенымі ахоўваемымі аб'ектамі), надрукаванай у маштабе 1 : 200 000 Акруговым геадэзічна-картаграфічным прадпрыемствам у Беластоку. Зрэшты, у тэксце кніжкі пры кожным аб'екце падаецца таксама дакладны план яго размяшчэння ў ваколіцы, затым з лакалізацыяй не павінна быць ніякай цяжкасці.На жаль, няма толькі плана для помнікаў прыроды, але не жадайма замнога!

Апісанне паасобных аб'ектаў папярэджваюць агульныя інфармацыі аб тэрыторыі, яе геаграфічным асяроддзі, раслінным і жывёльным светах. Кніжка праілюстравана 36-цю чорна-белымі здымкамі, выкананымі аўтарам, 56-цю малюнкамі Ежы Сталярчыка з Вроцлава і 41-м планам. Вокладку апрацаваў Лех Навацкі („Ніва” пісала пра яго шырэй у н-ры 50 ад 15.XII.1991 г.). Інфарматар змяшчае таксама спісак літаратуры прадмету і паказальнік прадстаўленых аб'ектаў.

Кніжку падрыхтавала, па заказу Ваяводскага захавальніка прыроды Тадэуша Хайнацкага, Выдавецкае аддзяленне Белавежскага нацыянальнага парку. Дарэчы, гэта першая кніжка таго ж аддзялення! Тыраж даведніка бадай невялікі — усяго 6 тысяч экземпляраў. Любіцелям беластоцкай прыроды давядзецца паспяшацца з пакупкай, бо турысцкі сезон ужо набліжаецца!

**ПЁТР БАЙКО**



( Працяг са стар. 5 )

людзі самі не змогуць, не маюць сілы. Дык тым больш балюча ўспрыняў я ў артыкуле сказ, што „многія жыхары шчыра і сумленна пытаюць, хто яны сапраўды. На такое пытанне кожны сам павінен знайсці адказ". Каго пытаюць? У каго чакаюць адказу, калі самі яго далі ў анкеце? Як доўга яны яшчэ будуць чакаць адказу?

Гісторыя Беларусі такой катэгорыі людзей зусім не ведала, сваі дзяржаўнасць на іх не ўздзейнічала — яе не было, царква цікавілася нацыянальнымі пытаннямі маргінальна, БГКТ і іншыя беларускія арганізацыі (за выняткам Грамады) ў гэтым напрамку зрабілі мала, „Ніва" разыходзіцца ўсяго ў 2-3 тысячах экземпляраў, у большасці школ навучанне беларускай мовы не вядзецца. Вось вам і ўздзеянне „працяглага гістарычнага працэсу".

Аўтар пастулуе, не называючы адрасатаў, што „трэба стварыць такія ўмовы, каб працэс фармавання нацыянальнай тоеснасці праходзіў у варунках свабоднага выбару без вонкавай прэсіі". Цудоўнае, хоць спозненае пажаданне. Як на іронію, ужо палавіна апошняга тысячагоддзя, у якім народы Еўропы сфармулявалі сваю тоеснасць, мы ад суседзяў атрымлівалі толькі парушэнні гэтага працэсу. Таму „праваслаўнымі палякамі" трэба займацца. Палякі іх не акцэптуюць, а беларусы, не адкідваючы, адносяць да афіцыйных маргінальманаў. У дзейнасці БГКТ яны нармальныя члены без ілгарства.

Услед за „распадам праваслаўнай грамадскасці" і паўстаннем „этнічнай групы" паявілася на Усходняй Беласточчыне чарговая фікцыя — „праваслаўныя палякі".

**У. ЮЗВЮК**

# ЗІМОВЫЯ КАНІКУЛЫ БЕЛАСТОЦКІХ ДЗЯЦЕЙ

Ці лёгка сёння ў рамках канікул арганізаваць адпачынак для школьнай моладзі? Кандыцыя асветы на Беласточчыне, як і ва ўсёй краіне, наогул добра вядомая, ды я не адважуся тут дэталёва пра яе пісаць — каб не знерваваць настаўнікаў. Увесь той працэс, які завецца прыватызацыяй, сапхнуў бюджэтны сектар, да якога, між іншым, і школьніцтва належыць, на сацыяльную ўскраіну. Школам нярэдка бракуе сродкаў на ацяпленне будынкаў ці на рамонт іх, а што тут гаварыць пра такую справу як арганізацыя канікул. Здавалася б, што школьная моладзь на час перапынкаў у вучобе пакінута сама сабе. Аднак, у наша жыццё штораз мацней урываецца камерцыя.

У перыяд ад 25 студзеня да 8 лютага 140 дзяцей са школаў Беласточчыны правяло свае канікулы ў Менску. Арганізавала гэту справу фірма Альжбеты Стахвюк „Elvimex". Яшчэ ў снежні мінулага года фірма паведаміла ў школы на Беласточчыне аб арганізацыі выездаў у Менск, у сувязі з чым усе школы мелі роўны шанц паслаць сваіх вучняў на канікулы. Паехалі, аднак, дзеці толькі з тых школаў, у якіх знайшоўся арганізатар: з Гарадка 28 дзяцей (арганізавала групу Ніна Маркевіч), з Орлі 10 дзяцей (Яўгенія Васілюк), з Чыжоў — 29 (дырэктар Сяргей Насковіч), з Дубіноў — 17 (Надзея Гаган), з Васількова і Студзянак — 16 (Лідзія Драль), з Нарвы — 11 (Ніна Абрамюк), з Рыбалаў — 6 (Ян Мордань), з Беластока — 11 (група арганізавалася пры школах беларускай мовы ў Стахвюкоў). Варта тут адзначыць, што не толькі школы пасылалі дзяцей на канікулы — беластоцкая парафія на Выгодзе арганізавала групу 12 дзяцей.

Канікулы беластоцкіх дзяцей у Менску былі магчымыя дзякуючы дамове паміж фірмай „Elvimex" і Гарадскім бацькоўскім камітэтам беларускамоўных класаў і школаў горада Менска. Праграма канікул была запланавана перад усім з думкай пра дзяцей беларусаў — удзельнікі канікул наведвалі Дзяржаўны тэатр лялек, Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета, Дзяржаўны мастацкі музей, Дзяржаўны краязнаўчы музей, Музей старажытнай беларускай культуры. У Беластоку бывалі выпадкі, што бацькі, даведаўшыся пра канікулы, прыходзілі запісваць сваіх дзяцей ды на самым пачатку заяўлялі: „Паверце нам, што мы беларусы і нашы дзеці таксама беларусы".

Нягледзячы на шмат якія ўскладненні, звязаныя з пераходам польска-беларускай мяжы, арганізатарам канікул удалося не абы-як наладзіць гэту справу — у вялікай меры дзякуючы прыхільнасці Падляшскага аддзела Пагранічнай стражы. Да пагранічнага пераходнага пункту ў Кузніцы дзяцей давозіла аўтобусамі фірма „Elvimex", затым аўтобусы ўязджалі ў нейтральную зону, а адтуль забіралі іх аўтобусы Бацькоўскага камітэта. Усё праходзіла хутка і спраўна. Тым не менш здарыўся адзін невытлумачальны выпадак. 1 лютага — у Менск ад'язджала другая група дзяцей, а першая адтуль вярталася — польская пагранічная стража пратрымала на мяжы тры з паловай гадзіны аўтобусы „Elvimexu".

Як дзеці ўспрымалі свой адпачынак у Менску? Напэўна інакш, чым іхнія апекуны. Апекуны, пасля багатага ў праграму дня, найчасцей на нос падалі, а дзецям... выраслі крылы. Зрэшты, хай самі скажуць.

**Маніка Плева (Дубіны):** Файна было, хадзілі мы ў музеі, тэатры, глядзелі балет... Спаць ішлі каля поўначы. Шмат хадзілі па горадзе, вельмі спадабалася метро — ганяліся мы ім па шэсць-восем разоў.

**Анэта Буйноўская (Дубіны):** Фантастычна было, наведалі шмат



*Памятны здымак з Менска.*

( Працяг са стар. 1 )

# СКРЫЖАВАННЕ СВЕТУ-ПАРЫЖ ПЕРАКРЭСЛІВАЕ БЕЛАРУСЬ

галінах феадальнага права — „Статут Вялікага княства Літоўскага" 1529 года (дапрацаваны і перавыдадзены ў 1566 і 1588 гг.), які дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі да 1840 года.

Спадзяемся, што французскім журналістам, а тым больш адукаванай французжанцы, вядомы Коледж дэ Франс. Дык вось менавіта ў ім у 1820 годзе ў сваіх лекцыях аб славянскіх літаратурах вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч ахарактарызаваў беларускую мову, як самую гарманічную з усіх славянскіх моў, якая, па яго словах, „мае даўнюю гісторыю, цудоўна распрацавана і менш, чым іншыя мовы працярпела змены", пачала складвацца, як руская і украінская, у XIII ст. ва ўмовах феадальнай раздробленасці тэрыторыі былой Кіеўскай Русі.

Беларуская мова ўвабрала ў сябе рысы дыялектаў былых усходне-славянскіх плямён-дрыгавічоў, радзімічаў і заходніх крывічоў. Наступныя падзеі — нашэсце манголаў на паўднёва-усходнія і паўднёва-заходнія землі былой Кіеўскай Русі і ўключэнне тэрыторыі Беларусі і Украіны ў склад Вялікага княства Літоўскага прывялі да фармавання ў XIV — XV ст.ст. (а не ў 20-я гады XX ст., як сцвярджае Э. Карэр) беларускай, рускай і ўкраінскай народнасцей і канчатковай дыферэнцыяцыі адпаведных моў. Іменна ў гэты перыяд склаліся важнейшыя фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці беларускай мовы, якія надаюць ёй спецыфічныя нацыянальныя рысы. У гэты перыяд канчаткова фармуюцца разнастайныя жанры беларускага фальклору, у якім асабліва вылучаецца самая багатая ў славянскім (ды і не толькі ў славянскім) свеце вясельная паэзія з яе багацейшымі нацыянальнымі рысамі, якія захавалі мноства старажытных славянскіх элементаў.

Адной з прыкметных рыс нацыянальнага характару беларусаў, якіх не вагаючыся з прывабнай праставатасцю пазбаўляюць Карэр і „Ле Монд", з'яўляецца добразычлівасць. Ці не таму на працягу сваёй шматвяковай гісторыі Беларусь з адкрытай душой давала прыстанішча і прытулак гнаным прадстаўнікам розных верывызнанняў — пратэстантам і стараверам, іудзеям і мусульманам. Ці не таму ў адрозненні ад сваіх суседзяў — Польшчы і Расіі ўспрымала яна іх мову, часам адмаўляючыся ад сваёй роднай, якая яшчэ з XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім з'яўлялася дзяржаўнай. Нагадаем, што першы дакумент на польскай мове з'явіўся ў 1523 годзе. А беларускі першадрукар Францыск Скарына ў 1517-1519 гг. пракаменціраваў і выдаў на беларускай мове 25 кніг „Біблії" раней, чым зрабіў яе нямецкі пераклад Лютэр. Для параўнання прыгадаем, што першую датаваную кнігу „Апостал" першы рускі кнігадрукар Іван Фёдараў выдаў пасля першай беларускай друкаванай кнігі толькі праз 50 год, у 1564 годзе ў Маскве і ў Львове ў 1574 годзе. А першая друкаваная ўкраінская кніга з'явілася праз 100 год пасля выхаду першай друкаванай беларускай кнігі.

Беларусь славіцца па ўвесь свет сваімі слуцкімі паясамі, вырабамі ручнога шаўковага ткацтва другой паловы XVIII — пачатку XIX ст., якія ўключаюць у свой арнамент нацыянальныя матывы, а іх назва (слуцкія) стала сінонімам усіх доўгіх шаўковых паясоў. Нацыянальнымі рысамі вызначаецца і беларуская драўляная архітэктура, своеасаблівы крой і ўзоры адзення беларусаў, самабытныя творы рамесцтваў, якіх у сярэдневяковых гарадах Беларусі налічвалася звыш 50. Сярод іх —

беларускіх музеяў, былі ў беларускай гімназіі, дзе сустрэліся з беларускай моладдзю, ездзілі таксама па-за Менск. Зразумела, хадзілі трохі па крамах, у якіх няшмат можна было купіць, бо ўсё на талоны, але заўсёды нешта цікавае там трапілася. Моладзь, з якой мы сустрэліся ў гімназіі, наладзіла нам дыскатэку.

**Валянціна Дзмітрук (апякунка):** Па-мойму, выезд наш надзвычай удаўся. У Менску дзеці пазналі шмат новага для іх — большасць з іх упершыню ўбачыла балет. У Раўбічах вельмі ж спадабаўся дзецям добра абсталяваны спартыўны асяродак — яны там пашалелі, мокрыя былі... Мусілі мы там здорава за імі сачыць, каб не пахварэлі. Усе спектаклі, якія мы глядзелі, праходзілі на беларускай мове. Мушу тут сказаць, што нашы дзеці добра ведаюць гэту мову, бо ўсё зразумелі як трэба, смяяліся, кляскалі разам з усімі... Спадабаліся дзецям музеі, хоць, трэба сказаць, праваднікі ў Беларусі прывыклі да таго, што дзеці паслухмяна ходзяць за імі ды слухаюць іх, а нашы дзеці — што ж, праяўляюць крыху больш ініцыятывы, калі нешта ім падабаецца, то нікога не пытаюцца і падыходзяць да экспанатаў. Ініцыятыва гэтая праявілася і ў іншым момацне. Шмат хто купіў сабе лыжы, канькі, ці яшчэ штo — ўсё гэта, вядома, прадаецца на талоны, але для нашых дзяцей не было гэта клопатам, купілі і талоны. Аднак, агульна кажучы, дзеці аказаліся дысцыплінаванымі і мы як апекуны вялікага клопату з імі не мелі. Было некалькі абмазаных зубною пастай клямак, але гэта ўжо іхняе права.

Выказванні дзяцей і іх апекуноў доўга можна было б яшчэ прыводзіць. Усе яны згодна сцвярджаюць, што падобныя выезды трэба арганізаваць і надалей. Застаецца тут толькі пажадаць арганізатарам вытрымкі ў правядзенні падобных імпрэзаў у будучыні, якія прыносяць таксама карысць і агульнай справе.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# З гісторыі Орлі

Зямля ў Орлі і суседніх вёсках мае вялікія залежы гліны і даўно ўжо людзі на гэта звярнулі ўвагу. Быццам бы ў XVII стагоддзі ва ўрочышчы Антанова існавала цагельня, з яе прадукцыі пабудавана сінагога ў Орлі. Цагельня Антанова працавала да дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Другая цагельня была ва ўрочышчы Бор. Яны працавалі да часу, калі арандатарам Арлянскай воласці быў Розенблюм.

На больш прамысловае выкарыстанне залежаў гміны звярнуў увагу жыхар Орлі — бедны яўрэй Айзык Вайнштэйн. Удалося яму дагаварыцца з уладальніцай фальварку Баранаўцы прадаваць ёй малако. З такой платнай паслугі дарабіўся ён фартуны і купіў ва ўладальніка Арлянскай воласці Віттэнштэйна бровар, які перабудаваў на кафлярню (2 печы і 12 фармоўшчыкаў). У 1897 годзе купіў ён фальварак Орля (дварская забудова і 24 га зямлі) і пабудаваў другую кафлярню, а потым і трэцюю, якая была насупраць сённяшняга асяродка здароўя. Пабудаваў ён яшчэ кафлярню ў Бельску, у маёнтку Галавеск і ў Мілейчыцах. Кафлярню ў Бельску аддаў у пасагу сваёй дачцэ. Кафлярні ў Орлі да 1939 года былі ўласнасцю чатырох сыноў Вайнштэйна: Шмулька, Сроля, Абрама і Ёсела.

У арлянскай кафлярні фармоўшчыкамі і работнікамі былі не толькі беларусы і палякі, але ў большасці яўрэі і гэтую кафлярню празвалі „Палясцінай". У 1938 годзе быў страйк, а пачалі яго яўрэйскія рабочыя. У 1939 годзе савецкая ўлада нацыяналізавала фабрыкі Вайнштэйна. Дырэктарам фабрыкі стаў Лейкін, а былы саўладальнік Абрам Вайнштэйн быў толькі бухгалтарам. У першых днях нацыяналізацыі налажылі вялікі падатак за ўзбагачэнне. Бухгалтар сабраў работнікаў і сказаў, што налажылі такі налог, што ён не ў сілах плаціць і прасіў рабочых, каб заступіліся за яго. Рабочыя ад сябе паслалі паехаць разам з Вайнштэйнам рабочага Данілу Савіцкага. Калі заехалі ў Дзяржбанк у Бельск, то дырэктара не было. Прыняў іх віцэ-дырэктар — таксама яўрэй. Рабочага пра нішто ён не пытаў, а налог не хацеў разлажыць хаця б на раты. Вяртаючыся ў Орлю, Абрам наракаў на кепскае закапчэнне справы і непрыхільныя адносіны віцэ-дырэктара, таксама яўрэя. Вось бачыце, не заўсёды яўрэі яўрэям памагаюць.

**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**

# У НАРАЎЧАНСКАЙ ГМІНЕ...

Ваду з крана маюць жыхары Нараўкі і бліжэйшых ад яе вёсак Янава, Стачок, Свінарыі і Заблотчына. Крыштальна чыстую ваду п'юць сяляне з Семяноўкі, Баб'яй Гары, Баравых, Семянякоўшчыны і Новай Лукі.Апошнія пяць вёсак знаходзяцца каля Семяноўскага вадасховішча. Ім пашанцавала.

Зараз будуюць водаправод у Гушчэвіну (вёска каля Нараўкі), а таксама ў Старое Ляўкова і Новае Ляўкова. У гэтых вёсках выступае дэфіцыт вады.

* * *

У Нараўцы будуюць Дом культуры. У ім будуць: танцавальная зала, кавярня, майстэрня для мадэльшчыкаў, фоталабараторыя. У гміне існуе дванаццаць святліцаў, у тым ліку новыя культурныя аб'екты ў Гушчэвіне, Заблотчыне, Міхнаўцы, Тарнопалі, Баб'яй Гары і Старым Ляўкове.

Прыдалася б святліца ў Новым Ляўкове. Войт гміны згодны перадаць на яе пабудову адзін з пустуючых драўляных будынкаў у Нараўцы. У Новым Ляўкове ёсць некалькі столяроў. Ці захочуць яны ўзяцца за пабудову вясковага Дома культуры?

* * *

У новапабудаваным Гмінным асяродку здароўя ў Нараўцы будзе аддадзена ў эксплуатацыю сем лекарскіх кабінетаў і шэсць жылых кватэр для медыцынскага персаналу.

* * *

Зараз кожная сялецкая вёска — іх у Нараўчанскай акрузе дваццаць тры — мае тэлефоны. Апошнім часам пабудавалі тэлефонную лінію ў Забрады каля Семяноўкі.

* * *

У Нараўцы пачала дзейнасць жыллёвая спулдзельня. У мінулым годзе аддалі ў карыстанне васемнаццаць кватэр. Сёлета наваселле справяць 54 сям'і. Шматкватэрныя мураваныя дамы будуе бельскае прадпрыемства.

* * *

У гміне дзейнічаюць чатыры васьмікласныя школы. Найбольш дзяцей вучыцца ў Нараўцы і Старым Ляўкове. У гэтых вёсках ёсць прадшколлі.

* * *

Жыхары Нараўчанскай гміны маюць 317 уласных аўтамашын, сярод якіх ёсць нават маркі:„Опель", „Форд" і „Ніссан", а таксама „Мэрседэс". Карыстаюцца яны 160 матацыкламі і 220 матавеласіпедамі.

Да апрацоўкі зямлі служаць ім трактары з камплектамі машын. Маюць яны 307 трактароў. У мінулым годзе купілі сем „Урсусаў".

**ЯСЕНЬ**



*Новыя дамы ў Старым Ляўкове ( Нараўчанская гміна).* **Фота Я. Целушэцкага.**

збудаванне і аздобленне замкаў, ратуш, касцёлаў і цэркваў, выраб паперы, друкаванне і афармленне кніг і інш.

Грамадскі лад беларусаў здаўна змыкаўся з перадавымі еўрапейскімі традыцыямі. Многія сярэдневяковыя гарады Беларусі ў адрозненні ад гарадоў Расіі валодалі магдэбургскім правам, згодна з якім эканамічная дзейнасць, маёмасныя правы, грамадска-палітычнае жыццё, саслоўны стан гараджан рэгуляваліся ўласнай сістэмай юрыдычных нормаў.

Генетычнай роднасцю з Беларуссю звязаны такія выдатныя дзеячы культуры, як паэт А. Міцкевіч, кампазітары М. Глінка, С. Манюшка, І. Стравінскі, Д. Шастаковіч, мастак М. Шагал і іншыя, якія ўвасобілі беларускія нацыянальныя матывы ў сваёй творчасці і перадалі іх сусветнай культуры.

Беларусь нікому ніколі не прад'яўляла тэрытарыяльных прэтэнзій, якія прыпісвае ёй Э. Карэр, не аднойчы сама з'яўлялася аб'ектам падзелу з боку сваіх суседзяў. І сёння беларускі парламент да агульнага ведама заявіў аб адмаўленні ад якіх-небудзь тэрытарыяльных прэтэнзій, хоць частка беларускай этнічнай тэрыторыі знаходзіцца за яе дзяржаўнымі межамі: у Расіі гэта заходнія Смаленшчына і Браншчына, паўднёвая Псхоўшчына, у Польшчы — Беласточчына, у Літве — яе паўднёва-ўсходнія раёны, што пацвярджаюць этнаграфічныя карты нямецкіх, польскіх і рускіх вучоных, якіх нельга западозрыць у прадузятасці. Гэта наступныя карты: „Karte der Verbreitung der Deutsche in Europa" прафесара Г. Норберта, M1:925000, Глагаў, 1888; „Этнографическая карта западного славянства и западной Руси" прафесара Т. Д. Фларынскага. М 40 вёрст у дзюйме. Киев, 1911; „Länder und Völkerkarte Europas" прафесара Д. Шэфера. М 1:4 000 000, 1918 і іншыя, якія ўвайшлі ў выдадзеную ў 1991 г. у выдавецтве „Навука і тэхніка" кнігу Я. Я. Шыраева „Беларусь: гісторыя і тэрыторыя".

Як самастойную, надзеленую спецыфічнымі нацыянальнымі рысамі, беларускую мову, якую некаторыя прадстаўнікі рускай філалагічнай навукі XIX ст. лічылі адной з гаворак рускай мовы, вылучаў у пачатку XIX ст. беларуска-польскі археолаг, этнограф З. Я. Далэнга-Хадакоўскі (1784-1825), адзін з заснавальнікаў славяназнаўчай навукі. Хадакоўскі першы вызначыў фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці беларускай мовы і арэал яе распаўсюджання, аб чым неадназазова адзначаў у сваіх артыкулах. У адным з іх ён, у прыватнасці, пісаў: „Праязджаючы з поўначы да Ноўгарада пераважна палявымі дарогамі, заўважыў, што дыялект тутэйшы блізкі крывіцкаму, або беларускаму; гаворачь „дзеці", „цябе", „замяціце хату", „дзўка прынясець піць", „будзеце есці". Так гаворачь і ў Пскоўскім краі, і на поўнач адразу ад Чарнігава праз усю Беларусь і Смаленскую губерню. Вядома, што гэтыя жа самы ёсць у Мінскай, Гродзенскай губерні, у паўднёвай частцы Віленскай і да Райгарада на Падляшшы".1) Гэтую ж „гаворку", як пісаў Хадакоўскі, ён зафіксаваў, калі „размаўляў з ільменскімі сялянамі ад Шалоня, Русы і Холма, і знайшоў у іх той жа самы дыялект."2)

Скрыжаванню свету, Парыжу, не грэх было б крыху ведаць пра Беларусь, калі ён вырашыў узяць на сябе адказнасць разважаць аб ёй, тым больш у такой катэгарычнай форме.

**АНАТОЛЬ АКСАМІТАЎ**

**доктар філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік інстытута мовазнаўства Беларускай акадэміі навук**

1)Wiadomości o Zoryanie Dołędze Chodakowskim i Korrespondencya iego. — „Pamiętnik umiejętności moralnych i literatury". Warszawa, 1830, t. IV. s. 228.

2)Отрывок из путешествия Ходаковского по России. Ладога. Новгород. — „Русский исторический сборник", 1839, т. III, кн. 2. с. 192.




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 56 —

Надзеі беларусаў і літоўцаў пасля пастаноў Віленскага і Варшаўскага Сеймаў накіраваліся ў бок Лігі нацый, таму што вырашэнням віленскай справы не хапала міжнароднай санкцыі. Гэты недахоп даваў магчымасць ставіць віленскую справу на еўрапейскі форум так доўга, як доўга польскія межы не былі прызнаны канферэнцыяй паслоў, аб чым яшчэ будзе гутарка.

**Раздзел XXIV**

**Ушанаванне гадавіны 25 сакавіка ў 1922 годзе ў Вільні. Віленскія святкаванні, звязаныя з прыходам да ўлады польскага ўрада. Акцыя Беларускага нацыянальнага камітэта ў сувязі з далучэннем Віленшчыны да Польшчы.**

Як вядома, 25 сакавіка 1918 года існуючая тады ў Мінску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аб'явіла незалежнасць Беларусі. Дзень гэты быў прызнаны беларускім нацыянальным святам. У 1922 годзе гадавіна гэта святкавалася ўрачыста. Узялі ў ёй удзел таксама яўрэі і рускія, дэманструючы сваю салідарнасць з Беларуссю. На гэтым святкаванні выступалі з прамовамі Тарашкевіч, Луцкевіч, Смоліч. Найбольшай увагі заслугоўвала прамова Тарашкевіча. Сцвердзіў ён, што Люблінская унія адабрала беларускаму народу інтэлігенцыю, аслабляючы такім чынам, а нават даводзячы да заняпаду беларускую культуру.

Толькі ў XIX ст. беларускі нацыянальны рух пачаў адраджацца, набіраючы ў XX стагоддзі больш выразныя формы. Пачаткова беларусы патрабавалі толькі аўтаномію. У моманце выбуху Кастрычніцкай рэвалюцыі беларуская інтэлігенцыя, даследуючы настроі беларускага грамадства, прыйшла да вываду, што беларускі народ патрабуе свабоды, рэзультатам чаго было абвяшчэнне Радай Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнасці.

Тарашкевіч сцвердзіў у далейшым, што суседзі Беларусі ў прынцыпе згаджаюцца з ідэяй незалежнасці Беларусі, аднак, разумее яе кожны па-свойму і стараецца выкарыстаць для сваіх палітычных мэт. Напомніў, што бальшавікі аб'явілі незалежнасць, якая з'яўляецца толькі сурагатам незалежнасці.

Фактычнай незалежнасці беларускі народ не мае і не чакае яе ад суседзяў. Беларусы захоўваюць яе ў сэрцах і рэалізуюць тады, калі надыдзе адпаведная для гэтага хвіліна.

У далейшай частцы сваёй прамовы Тарашкевіч зазначыў, што: „калі на Кафедральнай плошчы ў Вільні стаяў рускі жандарм, не магло быць гутаркі аб такім святкаванні. Сёння стаіць там польскі салдат і не перашкаджае беларусам святкаваць."

Прамова была наогул устрыманай і таму не дражніла паасобных нацыянальнасцей, якія прымалі ўдзел ва ўрачыстасці.

З польскага боку былі прысутныя прадстаўнікі Польскай сацыялістычнай партыі „Адраджэнне" і „Вызваленне".

Перад урачыстасцямі, звязанымі з устанаўленнем улады польскага ўрада над Цэнтральнай Літвой, паміж рознымі беларускімі групамі вяліся палемікі, звязаныя з удзелам беларусаў у гэтых урачыстасцях. На пасяджэнні Беларускага нацыянальнага камітэта і Палітычнай камісіі таго ж Камітэта вырашана, што ў актах, якія маюць выразна ўрачысты характар (набажэнствы, прывітанні і г.д.), беларусы не павінны прымаць удзелу. Было, аднак, пастаноўлена паслаць дэлегацыю ад розных арганізацый, якая прадставіць польскім уладам свае пастулаты перад усім культурна-асветнага характару.

*(Працяг будзе)*

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 3866. Ян Якімюк (Гайнаўка) | 100.000 зл. |
| 3867. Міхал Клімюк (Гайнаўка) | 20.000 зл. |
| 3868. Міхал Юшчук (Гайнаўка) | 6.000 зл. |
| 3869. Валянціна і Юрый Сагайдак | 22.000 зл. |
| 3870. Аддзел БГКТ у Белавежы | 103.000 зл. |
| 3871. Управа горада Гайнаўкі | 30.000.000 зл. |
| 3872. Ян Тапалянскі (Нарва) | 20.000 зл. |
| 3873. Міхал Голуб (Гайнаўка) | 20.000 зл. |
| 3874. Янка Жамойцін (Варшава) | 100.000 зл. |
| 3875. Мікалай Петручук (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3876. Павел Алексяюк (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3877. Валянціна Іванюк (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3878. Аляксандра Юшчук (Выгада) | 10.000 зл. |
| 3879. Ізабела Грыка (Бельск-Падляшскі) | 10.000 зл. |
| 3880. Мікалай Галёнка (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3881. Тамара Тарасевіч (Белавежа) | 10.000 зл. |
| 3882. Сяргей Тарасевіч (Белавежа) | 10.000 зл. |
| 3883. Валянціна Галёнка (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3884. Юры Шэрашэвіч (Гайнаўка) | 10.000 зл. |
| 3885. Ян Бараноўскі (Гайнаўка) | 10.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, Тэлефон 30-16.







Мілае Сэрцайка! Я закахалася ў вельмі прыгожага хлопца. З першага погляду! Яшчэ ў маім жыцці ніхто мне так не спадабаўся. Высокі, чарнявы, сінія вочы з доўгімі расніцамі. А цалаваў — як ніхто дагэтуль. Але я марыла пра адно толькі — каб быць з ім назаўсёды. Аддацца яму! Спаць з ім.

Хлопец гэты, аднак, не спяшаўся цягнуць мяне ў пасцель. Спачатку мне здалося, што ён проста далікатны, як ніводзін з маіх ранейшых хлопцаў (мне ўжо 23 гады, а яму 25, я маю ўжо пэўны вопыт у сексуальных справах, думала, што ён — таксама). Час ішоў, а ў нас усё было па-старому: пацалункі, прытулянкі і... на гэтым усё канчалася.

Ужо пару разоў так здарылася, што мы, калі былі ў спрыяльных абставінах, вельмі наблізіліся, але першы якраз у той момант, калі я ад'язджала ў Варшаву і вельмі спяшалася на цягнік, так што нічога не выйшла з нашага збліжэння, а другі раз было так, што мы паехалі на лона натуры, і я ўжо была амаль упэўнена, што на гэты раз аддамся яму. Мы хадзілі, аглядалі прыроду і цалаваліся — пакуль было відна. А калі сцямнела — ён сказаў, што трэба ехаць дахаты, бо цёмна і нехта можа да нас прычапіцца. Вярнуліся цягнікам у горад. Усюды людзі. У парку хуліганы лазяць. Дахаты не пойдзем, бо жывем з бацькамі. Што рабіць? Схаваліся ў пад'ездзе нейкага блока. То адзін чалавек прайшоў, то другі. Ізноў — нічога.

І вось нарэшце наступіў дзень, пра які я марыла. Мае бацькі паехалі на пахаванне цёткі, і я засталася дома адна. Мой хлопец прыйшоў да мяне, не ведаючы, што бацькі выехалі. І тут я праявіла сваю ініцыятыўнасць — і праз нейкі час мы апынуліся ў пасцелі.

Божа! Навошта я гэта зрабіла? Чаго мне было трэба? Усё каханне маё як рукой адняло. А бедны хлопец так жа стараўся... Ды было гэта ў яго, на жаль, нешта такое мякенькае і няўпэўненае, што мне рабілася проста млосна. Такі прыгажун! Як гэта такая анамалія можа здарыцца ў жыцці?

**Тацяна**

Тацяна! У жыцці анамалій здараецца шмат. Знешняя прыгажосць не ідзе ў пары з сексуальнымі магчымасцямі. Менавіта таму, калі жанчына выходзіць за брыдкага мужчыну, людзі часта кажуць: „І што яна ў ім знайшла?!" А тая жанчына хітра ўсміхаецца і кажа: „Схаваныя валёры". Яна ўжо напэўна ведае, чаму ўсміхаецца. Толькі наіўныя людзі лічаць, што з прыгожым хлопцам абавязкова будзе добра ў пасцелі.

Ты, Тацяна, паспяшалася. Усё ж такі, калі дарослы прыгожы хлопец цябе цалаваў, дык (калі б мог), то, пэўна, ахвотна ўскочыў бы ў твой ложак. Трэба было меркаваць, што ён тут нешта круціць: хацеў цябе ўзяць, калі ўцякаў твой цягнік; калі вы былі адны на лоне прыроды, дык спачатку было занадта відна, а пасля занадта цёмна; у парку перашкаджалі людзі... Калі хлопец сапраўды загарыцца пачуццямі да дзяўчыны, яму не перашкодзяць ніякія эвентуальныя хуліганы.

З другога боку, можа, яшчэ не ўсё страчана. Мо яго імпатэнцыю яшчэ можна лячыць. А мо ён проста нясмелы, мо не спаў яшчэ з жанчынай (і так жа здараецца). Не спяшайся!

Але ёсць і жанчыны, якія не любяць „брутальнага" цвёрдага члена. Ім лепш, каб быў „мяккі і далікатны, як у ксяндза" (пра гэта можна прачытаць у Жан-Поля Сартра). Якраз так, як у тваіго хлопца.

**СЭРЦАЙКА**



**Пошта Сэрцайка.**

Шаноўная Барбара! Сэрцайка — не лекар, часамі можа і памыляцца. Вашыя ўвагі прымае да ведама. Калі ўжо будзеце лекарам — запрашаем да супрацоўніцтва. Але можна і раней.

Што датычыць прадукцыі „Нівы", дык Вы памыляецеся: з момантам пераходу на камп'ютэрны склад робіцца яна ў апошнюю хвіліну.

С.




**Шматпаважаныя сябры, дзень добры!!!**

Я з'яўляюся старшынёй рады Беларуска-эстонскага згуртавання (БЭЗ) горада Кохтла-Ярве. Звяртаюся да вас з вялікай просьбай: Уся справа ў тым, што жыву я ў Эстоніі ў мясцінах, звязаных з жыццём Станіслава Булак-Балаховіча і зараз мы тут спрабуем аднавіць „цёмныя плямы" ў яго біяграфіі. Самым невядомым для нас зараз з'яўляецца перыяд яго жыцця на Беласточчыне (у Белавежскай пушчы) і ўдзел у абароне Варшавы. Калі ў вас ёсць нейкія звесткі, дык дашліце, калі ласка, мне. Мабыць, ёсць і здымак Балаховіча? Я б тады зрабіў усё для таго, каб напісаць добры артыкул і даць яго ў друк. Вельмі спадзяюся на дапамогу вашых чытачоў.

Аб нашых апошніх справах: 25 снежня зрабілі вечарыну і добра адсвяткавалі Каляды, а 19 студзеня адчынілі ў горадзе Кохтла-Ярве выставу мастакоў-беларусаў Балтыі з аб'яднаньня „МАІО ГОНАР". У выставе ўдзельнічаюць мастакі-беларусы з Вільні, Рыгі, Кохтла-Ярве і Санкт-Пецярбурга. Выстава будзе экспанавацца ў нас да 29 лютага, а затым яе перавязуць у Талін.

Шчырае прывітанне беларусам Беласточчыны ад беларусаў Эстоніі!

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

Старшыня рады БЭЗ
горада Кохтла-Ярве
**Уладзімір Дзехцярук**

Мой адрас: 202040 Eesti, Kiviõli, Pargi tanäv 5a - 25, Vladimir Dehteruk.



Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Калядніку з Тыневіч Вялікіх.* **Фота М. Ваўранюка**

# ПОШТА ЗОРКІ

**Добры дзень!** Вітае вас вучаніца шостага „А" класа з Мікашэвіч Тацяна Мартысюк. Мне адзінаццаць гадоў. Вучуся добра. Хаджу ў школу на другую змену. У гэтым класе ў нас трынаццаць урокаў. Я хаджу на тры гурткі: вязання, „Гаспадынька", „Крынічанька". „Крынічаньку" вядзе Аляксандра Міхайлаўна Нямчэня. Мы там складаем вершы, апавяданні, рэбусы. Вязанне вядзе Ірына Сяргееўна Высоцкая. Яна вельмі добрая і з ёю заўжды можна пасмяяцца. У гуртку „Гаспадынька", які вядзе Антаніна Мікалаеўна, мы вучымся шыць, гатаваць ежу, вышываць.

У мяне ёсць брат Гена. Ён вучыцца ў 8 „А" класе. Маю маму завуць Тамара Міхайлаўна, тату Яўген Рыгоравіч. У хаце ў нас ёсць сабачка Дружок, яму толькі некалькі месяцаў. У мяне вельмі шмат сяброў, але самая лепшая — Ларыса. Яна вучыцца ў 9 „Б" класе. Мая сяброўка, — калі мне цяжка, стараецца мне дапамагчы, а калі што - небудзь мне вельмі патрэбна, я таксама іду да сяброўкі. Яна мне ніколі ні ў чым не адмаўляе, і я ёй таксама. Мы з ёй часам сварымся, але хутка мірымся. У Ларысы дома ёсць хамячкі і некалькі акварыумаў з рыбкамі. „Зорка", я спадзяюся, што з тваёй дапамогай я знайду добрую сяброўку і ў Польшчы.

Да пабачэння, „Зорка"!

Мой адрас: Беларусь, 228610, Брэсцкая вобласць, Лунінецкі раён, г.п.Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 95, кв. 50.

**Тацяна Мартысюк**

# Закапанае золата

**(украінская казка)**

Меў бацька трох сыноў. Былі яны вельмі лянівыя. Каб іх пракарміць, бацька працаваў, як вол, — чарнеў ад работы, рукі яго балелі, кроў выцякала з пальцаў, а сыны толькі гулялі, хадзілі ля ракі, у лес, ляжалі на траве ў садку.

Бацька ім казаў:

— Сыны мае, працуйце, бо цяжка вам будзе, калі я памру!

А старэйшы сын і кажа:

— Эй, бацька, працуй, пакуль можаш, а мы будзем працаваць, калі цябе не будзе.

— Але ты не ўмееш нічога, — сказаў бацька.

— Я ажанюся — будзе жонка працаваць.

Другі сын і кажа:

— І я ажанюся.

А трэці:

— Я зраблю тое ж, што і мае браты.

Але бацька працаваў-працаваў і захварэў. Прыйшлі сыны і пытаюцца:

— Тата, ты паміраеш, а што ты нам пакідаеш?

А бацька быў бедны, але меў разумную галаву, падумаў і кажа:

— Дзеці, шукайце ў зямлі золата.

— А ў якім месцы вы закапалі золата? — спыталіся сыны.

— Гэтага я вам не скажу, — адказаў бацька. — Капайце агарод, арыце ніву, саджайце, абрабляйце, збірайце — там і золата знойдзеце.

Паляжаў бацька трохі ў ложку і памёр. Прыйшла зіма, сыны з'елі ўсё тое, што ім пакінуў бацька, а новага нічога не садзілі і не сеялі. І другую зіму таксама галадалі лянівыя браты.

Пайшоў старэйшы брат шукаць сабе жонку — вярнуўся ні з чым, пайшоў сярэдні брат сватаць дзяўчыну — не пайшла за яго, пайшоў і малодшы — ніхто не хоча ісці замуж за лайдакоў. Дачакаліся яны вясны, а вясной пачалі золата шукаць. Перакапалі ўвесь агарод — не знайшлі золата, пасадзілі бульбу — урадзіла добрая бульба. Пайшлі поле капаць. Ускапалі поле — няма золата, але пасеялі пшаніцу — урадзіла пшаніца такая буйная, такая здаровая! Памалаціці, адвезлі зерне ў млын, намалолі мукі, напяклі хлеба, селі свой хлеб есці, а малодшы брат кажа:

— Ой, якія мы, браты, дурныя! Бачыце? Золата ўрадзілася. Праўду нам бацька казаў, каб мы шукалі ў зямлі золата!

Браты паўставалі з-за стала, закасалі рукавы і ўзяліся за работу. Вось тады зямля давала ім золата: вырастаў хлеб. Яны працавалі, усё мелі, хутка пажаніліся. Разам з жонкамі збіраліся за сталом і казалі:

— Калі б жыў наш мудры бацька, то і нам лягчэй было б!

**Пераклаў Валеры Бабей**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**ВІКТАР ШНІП**

### ЦЯПКА

— Гаў! Гаў! —
Напалохаў Мішку.
Патаптаў на клумбе
Кветкі.
Выпацкаў нам
Кніжку.
Разарваў
Для хлеба сетку.
Я ўсёроўна клічу
Есці,
Бо люблю яго.
Глядзіце
Толькі вы,
Малыя дзеці,
Так,
Як Цяпка,
Не рабіце!

### ЧАРАПАШКА

— Гай, чарапашка,
Чарапашка,
Ісці табе,
Напэўна, цяжка?
Давай дапамагу,
Малая.
Малы Раман дапамагае.
— Ну а табе, Раман,
Не цяжка? —
Загаварыла
Чарапашка. —
Ты адпачыць крыху
Спыніся.
— А я яшчэ не затаміўся.
— Дык будзь заўсёды
Добрым,
Рома!
Вялікі дзякуй —
Я ўжо дома!



### ЗАЯЦ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

Смела заяц едзе
На валасіпедзе.
— Гэй жа, шэры Зай,
Крыху пачакай! —
Воўк услед спяшае.
Зайца даганяе.
— Не дагоніш. Гэй! —
Зай крычыць смялей,
Бо ён хутка едзе
На веласіпедзе!

### ПЯТРОК УЖО ВЯЛІКІ

Заблудзіўся
Матылёк.
І яго знайшоў
Пятрок:
— Дзе жывеш ты?
— Ля ракі.
Плачуць там
Мае бацькі.

Да ракі
Бяжыць Пятрок.
На далоньцы
Матылёк.
Запытаўся дзед
Лявон:
— Матылька нясеш
Куды?!

— Да ракі. Малы,
Маленькі ён,
Ну а мне ўжо
Тры гады!

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК ІДЗЕ Ў МАГАЗІН

Аднойчы днём прачнулася мышка Пік-Пік і вырашыла з'есці цукерку, каб смачна спалося. Пабегла яна на кухню, а там — ніводнай цукерачкі!

— Нічога не зробіш, давядзецца самой купляць! — вырашыла мышка. Справа ў тым, што ў мышкі былі свае грошы — сапраўдная капейка, якую згубіла аднойчы мама. Тады мышка прыхавала капейку на ўсялякі выпадак, і вось выпадак прыйшоў. Дастала Пік-Пік свой капітал і пабегла ў магазін.

Выскачыла мышка з пад'езда.

— Ага, вунь ідзе цётка з вялікімі сумкамі, пабягу за ёй! — І сапраўды, цётка прывяла мышку ў вялікі магазін, адкуль пахла цукерачкамі. Шуснула Пік-Пік за дзверы і спалохалася. Колькі людзей! Усе злосныя, штурхаюцца. Але тут Пік-Пік заўважыла, што з глыбіні натоўпу час ад часу выдзіраюцца людзі, трымаючы ў руках вялікія прыгожыя каробкі. На каробках было напісана: „З Новым годам!". І мышка пачала прабірацца між нагамі людзей туды, дзе давалі гэтыя спакусныя каробкі з шакаладным пахам. Некаторыя ногі ёй нават давялося куснуць.

Нарэшце мышка пралезла да прылаўка і прапаўзла пад ім да гары прыгожых каробак. Сунула мышка сваю капейку ў туфлю прадаўшчыцы і вырашыла, што мае права паласавацца. Залезла ў адну з каробак. Там сапраўды былі цукеркі. Ела іх мышка, ела, але не паспела даесці апошняе, як адчула, што каробку падхапілі і шпурнулі на прылавак, а пасля каробка апынулася ў цёмнай сумцы.

Каб мышка была не так пад'еўшы, дык напалохалася б. А так яна ляжала ў каробцы, драмала і думала: „Вось дастануць з сумкі, я і ўцяку."

Сапраўды, хутка каробку некуды паклалі і адкрылі. Мышка ўбачыла над сабой разгубленыя твары незнаёмых хлопчыка і дзяўчынкі.

— Мама, мама, там мыш! — закрычалі дзеці.

— Што вы выдумляеце? — над мышкай нахілілася тоўстая цётка. — Авой! Падманулі! Мыш прадалі замест цукерак! Ну, я ім пакажу!

Пік-Пік толькі хацела ўцякаць, як цётка схапіла яе за хвост, шпурнула ў каробку і панесла назад у магазін.

У магазіне цётка, распіхаўшы ўсю чаргу, пралезла да прылаўка і паставіла пад нос прадаўшчыцы сваю пакупку.

— Што вы людзям прадаеце? А ну, замяніце мне каробку!

— А што вам не спадабалася? — разззлавалася прадаўшчыца і падняла покрыўку. — Ай-яй-яй! Навошта вы прынеслі мыш, хуліганка? Я ж іх баюся! Міліцыя!

А цётка крычала сваё:
— Сама ты хуліганка! Цукеркі з'ела, мыш запакавала і людзей дурыш!
Між тым мышка Пік-Пік выскачыла з каробкі і пабегла дадому.
.

— З чаго яны сварацца?! — здзіўлялася мышка. — Я сумленна купіла цукеркі, з'ела, а яны незадаволены. Дзівакі!

**Людміла Рублеўская**



*Аня Нікіцюк і Марта Галёнка з III „д" класа на ёлцы ў Пачатковай школе № 3 у Бельску.*

**Фота М. Ваўранюка**




## КОНЬ

Старадаўнія выявы коней — 100 гліняных фігурак — выкапаны беларускімі археолагамі на гарадзішчах мілаградскай культуры, што знаходзяцца на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі. Археолагі лічаць, што ў мілаградцаў быў развіты культ каня. пазней ён быў выкарыстаны ў геральдыцы. Вершнік на кані — Пагоня — трапіў на гербы некаторых беларускіх гарадоў, а пасля стаў гербам новай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага.

Культ каня выразна праявіўся і ў народным будаўніцтве. Яшчэ і цяпер над старымі хатамі відаць вільчакі, якія завяршаюць стрэхі. Самая распаўсюджаная аздоба вільчакоў — абрыс конскай галавы. Выявы коней выразалі і на ваконных ліштвах, на ручках чарпакоў, на пернікавых формах. У вуснай паэтычнай творчасці беларусаў конь таксама займаў ганаровае месца. Яму надаваліся незвычайныя, чароўныя ўласцівасці. Конь „вухам далёка чуе, капыцечкам зямлю крое, а грываю неба падпірае".

Але самай цікавай уяўляецца беларуская загадка пра світанне: „Ні стуку, ні груку на двары — сівы конь на зары". Яна пацвярджае меркаванне, што, паводле ўяўлення нашых продкаў, менавіта коні цягнулі сонечны фаэтон па небе. Гэтая беларуская загадка прыйшла да нас з дагістарычных часоў. Але ёсць і датаваныя звесткі пра такое ўяўленне. У радзіміцкіх курганах XI-XII стст., што стаяць на тэрыторыі тых жа Гомельскай і Магілёўскай абласцей,часта трапляюцца касцяныя брошкі-абярэгі. Яны ўяўляюць сабой фантастычных жывёлін, у якіх цела качкі, а шыя з грывай і галава — конскія. Вядомы савецкі археолаг і гісторык Б. А. Рыбакоў лічыць, што гэтыя амулеты прызначаны былі аберагаць іх уладальніц на працягу цэлых сутак: і ў дзень, калі сонца везлі коні, і ўночы, калі яно, як качка, плыло па „начным" падземным моры.

Асобна трэба сказаць і пра „сівага каня". Ён трапіў не толькі ў песні, дзе дапамагае герою знайсці сваё шчасце, і ў казкі, дзе пераносіць героя ў заморскае царства. Славуты збіральнік беларускага фальклору А. Сержпутоўскі паведамляў, што на Случчыне ды на Палессі менавіта праз вобраз „сівага каня" тлумачылі дзеткам, што такое каляда. Яе ўяўлялі як нешта добрае, што едзе на „сівым кані".

У старажытных грэкаў побач з міфамі, легендамі пра коней надобных на беларускіх чароўных коней, шырока распаўсюджаны былі вобразы кентаўраў, істот з тулавам каня і галавою чалавека. Калі назіраць, як спрытна і прыгожа сядзіць на кані вершнік, то можа падацца, што сапраўды чалавек і конь уяўляюць адну істоту. Дарэчы, некаторыя беларускія загадкі пра каня і вершніка ўяўляюць іх адной істотай, праўда, з дзвюма галовамі.

**Здзіслаў Сіцько**




* * *

Пятрусь узяў татаў гадзіннік і выцягнуў з вушка раменчык.
— Што ж ты нарабіў! Сапсаваў мне гадзіннік! — жартуючы гаворыць тата.
Пятрусь стаіць. Вочы пачырванелі — вось-вось заплача.
— Давай падумаем, як нам яго адрамантаваць, — усміхаючыся кажа тата.
— Тата, давай малатком! — павесялеў хлопчык.

* * *

Бацька тлумачыць сыну, як хутка бегае заяц, які імклівы палёт курапаткі, які абвостраны слых у сарны...
— Цяпер усё зразумела, — кажа малы, — чаму ты, тата, вяртаешся з палявання з пустымі рукамі!..

* * *

Бабуля маленькага Рыгоркі моцна храпе. З другога пакоя маці пытаецца:
— Рыгорка, бабуля заснула?
— Так, за выключэннем носа.

* * *

Мора — гэта з адным берагам, а рака — з двума.

**( Я. Ц. )**

## МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ

Воўк і Заяц

*Малюнак Марціна Таранты з Тапчыкалаў.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь; 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, д. 88, к. 1, кв. 16, **Зіноўева Каця** (14 гадоў).

* * *

Беларусь, 210015, г. Віцебск, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 9 А, кв. 1, **Ваўнянка Эдзік** (10 гадоў, вучыцца ў 5 класе).

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




*Пачынаючы ад кропкі пры цыфры 1, спалучы лініяй усе кропкі. Адгаданку прыслаў нам спадар Андрэй Гаўрылюк.*

# ВЕРСІІ ✵ КУР'ЁЗЫ ✵ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ - ЗДРАДНІКІ

(працяг)

У сямідзесятых гадах здрадзілі сваёй Айчыне супрацоўнік разведкі КДБ Лялін і агент генштаба палкоўнік Філатаў.

Разведчык Лялін уцёк у Вялікабрытанію. Пра сябе сказаў, што займаўся падрыхтоўкай аперацыяў на выпадак ваеннага канфлікту паміж Усходам і Захадам. Аднак, не меў ён супертайных інфармацый. Ведаў толькі большую частку разведчыкаў КДБ у Лондане.

У сярэдзіне 70 -х гадоў ЦРУ здабыла сабе агента генштаба, які сам запрапанаваў свае паслугі. Быў гэта палкоўнік Філатаў, які працаваў у Алжыры і перадаў амерыканцам многа сакрэтных інфармацый адносна ваеннай тэхнікі. Філатаў супрацоўнічаў з ЦРУ усяго чатырнаццаць месяцаў, вярнуўшыся ў Маскву, ён прадаўжаў перадаваць ЦРУ сакрэтныя дакументы, але быў арыштаваны КДБ падчас перадачы мікрафільмаў у тайнік. Пасля некалькіх месяцаў следства Філатаў быў асуджаны ваенным трыбуналам і затым яго расстралялі.

У 1974 годзе ў савецкім пасольстве ў Багоце працаваў Аляксандр Агароднік. Ён таксама пачаў супрацоўнічаць з ЦРУ. На працягу дванаццаці месяцаў ён інфармаваў амерыканскіх разведчыкаў аб тым, што найважнейшае абмяркоўвалася ў Міністэрстве замежных спраў СССР, а таксама перадаваў ЦРУ мікрафільмы сакрэтных дакументаў. КДБ хутка ўстанавіў „працяканне" сакрэтаў на Захад і пачаў строга кантраляваць супрацоўнікаў. Неўзабаве падазрэнні пацвердзіліся. Адзін з кіраўнікоў, які наглядаў за Агароднікам, быў сведкам, як працаўнік МУС СССР фатаграфаваў сакрэтныя дакументы пры дапамозе мініяцюрнай камеры.

Калі Агародніка арыштавалі, ён прызнаў сябе вінаватым. Папрасіў паперу, каб апісаць усе дэталі свайго супрацоўніцтва з ЦРУ. Яму прынеслі паперу і аўтаручку, але ён папрасіў дазволіць яму пісаць яго любімай ручкай фірмы „Монблан", якую перахоўваў у сваім службовым кабінеце. Атрымаўшы ручку, ён хуценька нешта дастаў з яе і праглынуў. Праз дзесяць секунд Агароднік памёр. Як высветлілася — у ручцы знаходзілася невялічкая ампула з атрутай.

У канцы сямідзесятых гадоў у Японіі ўцёк да амерыканцаў супрацоўнік КДБ Леўчанка. Ён нават выступіў падчас пасяджэння сенацкай камісіі ЗША. Абвінаваціў ён КДБ у дэзінфармацыі, выкарыстоўванні міжнароднай прэсы для прапагандысцкіх акцый.

Адзін з савецкіх разведчыкаў Уладзімір Пятроў (яго сапраўднае прозвішча Афанасій Шарахаў) працаваў аташэ ў Аўстраліі. Разам з ім была жонка Дуся. Тамашняя разведка перакупіла яго за 5 тысяч фунтаў штэрлінгаў. З тае пары АЗІО атрымоўвала весткі пра савецкіх агентаў у Аўстраліі і ў другіх краінах. Ягоная жонка Еўдакія аб пераходзе мужа на працу ў АЗІО нічога не ведала.

Інфармацыі Пятрова зашакіравалі аўстралійскі ўрад, а нават урады іншых дзяржаў. Ніколі і ніхто не мог сабе ўявіць, якая колькасць савецкіх разведчыкаў пранікла на Захад.

Савецкім кадэбістам удалося высачыць Еўдакію Пятрову vel Ellison. Яны пастанавілі патаемна вывезці яе ў Савецкі Саюз. Тут, аднак, перашкодзіла чуйная аўстралійская прэса. На аэрадроме ў Сіднеі адбылася дэманстрацыя. Усё ж Еўдакію сілком зацягнулі ў самалёт і ён адляцеў у напрамку Масквы.

У той час якраз у аэрапорце прабываў член аўстралійскага парламента. Ён хуценька пазваніў прэм'еру Мензісу аб тым, што Пятрову выкралі і хочуць вывезці насуперак яе жаданню. Мензіс выдаў загад змусіць самалёт на пасадку ў Дарвіне. Такім чынам Пятрова асталася ў Аўстраліі. З тае пары месца пабыўкі Пятровых стала дзяржаўнай тайнай у Аўстраліі.

Пятроў жыў у страху, што яго знойдзе КДБ, а тады чакае адплата. Што далей здарылася ў яго жыцці, чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

Апрацоўка

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




Астроне! Пасля маіх апошніх страшных сноў (ды ўсёй маёй сям'і), мне ў апошні час прысніліся два сны, якія, можа, нават і нешта добрае прадвяшчаюць.

Першы сон. Бачу вазон — „ангінку". Ён малады, зялёны, мае прыгожае лісце. Трымае яго нейкая нябачная рука. Але мне здаецца, што ён павіс у паветры, хаця цвёрда ведаю, што нехта яго трымае, ды толькі я яго не бачу.

У другім сне я згубіла сумку. Сумка была прыгожая, бежавага колеру. Я яе недзе палажыла (бачу ў сне, як ляжыць), а потым яна прапала. Шкада мне яе!

А вось мужу майму прыснілася, што згубіў сваю сумку, але знайшоў яе.

**Марыя**

Дарагі Астроне! Мне прысніўся страшны сон. Быццам бы ў маім пакоі вельмі многа вужоў. Мой муж стараецца іх выкінуць, ваюе з імі. Каторага ўдалося — то выкінуў. Ітак змагаўся з імі.

**Геня**

А мне прысніліся белыя калошы. Былі яны вельмі прыгожанькія, на не вельмі высокім абцасіку. Астроне, мілы, ты калісь пісаў, што абутак — на падарожжа. А я і сапраўды збіраюся ў падарожжа, і вось прысніліся мне яшчэ гэтыя дзіўныя, белага колеру, калошыкі-боцікі. Што яны могуць абазначаць?

**Анна**

Марыя! Твае сны — добрыя. Зялёны колер заўсёды абазначае добрую надзею, хаця твая надзея як бы кволая, як бы вісіць у паветры так, як вісеў у паветры той зялёны вазон. Аднак жа трымае яго нейкая моцная рука — гэта цешыць. Твой другі сон пра тое, што ты згубіла сумку, можа абазначаць для цябе, што нешта знойдзеш, або прынамсі будзе нейкі прыбытак. Шкада, што муж твой спачатку сумку згубіў, а пасля знайшоў яе.

Твой сон, Геня, нядобры. У твайго мужа ёсць нейкія ворагі, з якімі ён прабуе змагацца. Невядома, аднак, ці іх пераможа.

Аня! Што датычыцца твайго сну, дык можа ты выбіраешся ў нейкіх гандлёвых мэтах заграніцу? Бо здаецца, што выйдзеш ты з гэтага падарожжа „насуха". Варта ехаць!

**АСТРОН**

## У ГОНАР ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

У 1996 годзе споўніцца 250 гадоў з дня нараджэння Андрэя Тадэвуша Бонавентуры Касцюшкі, сына беларускай зямлі, героя вайны 1776-1782 гадоў за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, нацыянальнага героя Польшчы, ганаровага грамадзяніна Францыі. Культурны асяродак „Беларусь", які дзейнічае ў сталіцы Казахстана Алма-Аце, выйшаў з прапановай адзначыць гэту знамянальную дату. У звароце, які быў дасланы ў нашу рэдакцыю, чытаем:

„Перад гісторыяй імкнення народаў да волі, перад злучанай лёсам Касцюшкі — гісторыяй імкнення да свабоды амерыканскага і французскага, польскага і беларускага народаў, генерал, герой і ганаровы грамадзянін Т. Касцюшка заслужыў, каб цяперашнія пакаленні гэтых народаў памянулі 250-годдзе ад дня яго нараджэння адпаведна яго слаўным справам.

Другая сусветная вайна апаліла замак „Марачоўшчына" і хату, у якой нарадзіўся Т. Касцюшка. Цяперашнім людзям тая вайна аставіла развaліны, голыя сцены і ўсё больш зарастаючы лес.

З мэтай ушанавання ў вяках памяці Т. Касцюшкі на яго Радзіме — у замку „Марачоўшчына" — да 250-годдзя ад дня яго нараджэння і садзеяння ўмацаванню прыязні і супрацоўніцтва паміж вольнымі народамі ЗША, Францыі і Польшчы і беларускім народам, які толькі цяпер выходзіць на шлях волі, культурны асяродак „Беларусь" (горад Алма-Ата) стварыў фонд „Марачоўшчына — Т. Касцюшка", які працуе над стварэннем мемарыяльнага комплексу „Марачоўшчына — Тадэвуш Касцюшка".

Культурны асяродак „Беларусь" мае цяжкасці з фінансаваннем праграмы „Марачоўшчына — Т. Касцюшка" і звяртаецца да народа Беларусі, беларускіх арганізацый ЗША, Канады, Аўстраліі, Еўропы, народаў і арганізацый Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі, Польшчы за фінансавай дапамогай."

З аўтарамі праграмы можна кантактавацца па адрасу: 480123, Казахстан, г. Алма - Ата, 123, п/с 0, Я. А. Майсейчык, тэл. (03272) 201459.




## З РЫБЫ

**Рыбны гуляш па-амерыканску**

На 1 кг філетаў марской рыбы трэба ўзяць 5 дэкаў саланіны ці капчонага бачку, нарэзанага вельмі дробна,1 вялікую дробна нарэзаную цыбуліну, 2 вялікія бульбіны, нарэзаныя даволі вялікімі кавалкамі, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 3 шклянкі тлустага малака, 1 лаўровы лісток, 1 лыжачку солі, змелены перац.

1. Рыбу нарэзаць кубікамі.
2. Нарэзаныя саланіну ці бачок палажыць у вялікую плоскую каструлю і смажыць 5 мінут на малым агні. Усыпаць цыбулю, смажыць 3 мінуты. Уліць 2 шклянкі вады, дадаць лаўровы лісток і бульбу, варыць 10 мінут.
3. Укінуць кавалкі рыбы і тушыць яшчэ мінут 10.
4. Уліць малако, дадаць солі і перцу, давесці амаль да кіпення (не кіпяціць!).

Падаваць гуляш у глыбокіх талерках, пасыпаўшы зелянінай, з хлебам ці булкамі або грэнкамі.

Прапорцыя для 6 асоб.

**Карп з часнаком па-румынску**

На 1,5 кг карпа трэба ўзяць 4 зубкі часнаку, 1 лыжку лімоннага соку, 1/4 лыжачкі прыправы „чылі", пасечаную зялёную пятрушку, скрылёчкі лімону і соль па смаку.

1. Ачышчаную рыбу парэзаць на „званкі" таўшчынёю 3—5 см (галаву, хвост і плаўнікі выкарыстаць для падрыхтоўкі рыбнага супу ці халадца). Палажыць у плоскую каструльку, уліць туды столькі вады, каб рыба была толькі прыкрыта, варыць на сярэднім агні, пакуль рыба не будзе амаль мяккая.
2. Часнок перамяшаць з лімонным сокам і прыправай „чылі", дадаць да рыбы, страсянуць 2-3 разы каструлькай, зняць яе з агню, накрыць і пакінуць на гадзіну.
3. Цёлую рыбу пералажыць друшляковай лыжкай у салатніцу ці спецыяльную талерку для рыбы. Працадзіць соус, паліць ім рыбу, пасыпаць зелянінай, упрыгожыць лімонам.

Падаваць з хлебам ці булкамі або варанай бульбай.

Прапорцыя для 4—5 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**

(Паводле кнігі Кацярыны Пасляшынскай „Якія часы , такая кухня").



# З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

У магазін увайшоў мужчына. Падышоў ён да прылаўка, стаіць, разглядаецца па паліцах і маўчыць. Прадаўшчыца, з намерам дапамагчы кліенту, стала распытваць, што яму трэба купіць. Мужчына адазваўся:

— Не ведаю, што выбраць. Мне трэба купіць нешта чорнае, каб нашыць на рукаў. У мяне жалоба.

— Розныя бываюць павязкі, у залежнасці ад таго, хто памёр. Калі нехта блізкі, тады павязка бывае шырокая, а калі далёкі сваяк — вузкая.

— Тады дайце мне чорную нітку, — сказаў мужчына. — У мяне памерла цешча.

* * *

У парку сядзіць закаханая пара. Хлопец цалуе дзяўчыну. Раптам нейкі нахабнік ударыў яго па твары.

— Што гэта такое?! — крычыць хлопец.

— Гэта быў мой муж, — адказвае дзяўчына. — Я забыла сказаць, што ён вельмі зайздросны.

**АЎРОРА**

### МІНІ-КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 5) старажытны іспанскі танец трохдольнага размеру, 6) парусное або маторнае судна з двух карпусоў, 7) малюск сямейства бруханогіх, лужанка.

**Уніз:** 1) едзе на поездзе, параходзе, аўтобусе, ляціць на самалёце, 2) прыстасаванне на колцах або роліках, на якім катаюцца дзеці, 3) лакаматыў з паравым рухавіком, 4) адлітоўка.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.




**Адказ на касяк з н-ра 2. Управа:** мангол, маяк, морж, мышалоў, міліцыя, маўзер, манах, мазь. **Улева:** мроя, млынок, множнік, мяса, моладзь, міраж, матыль, маёр.

Правільныя адказы даслалі Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.







*Мал. Ігара Варашкевіча*

## АНЕКДОТЫ

Калегі падарылі акулісту на дзень нараджэння сувенір — вялікае крыштальнае вока. Акуліст паглядзеў, павярцеў і гучна засмяяўся.

Калегі здзіўлены:

— Чаму ты смяешся?

Акуліст:

— Цікава, што б вы мне падарылі, калі б я быў гінеколагам?

* * *

— Дарагі доктар, у мяне ўвесь час ломіць нагу. Дайце якія-небудзь лекі.

— Лекі тут не дапамогуць. У мяне часам з'яўляецца ламата ў назе. У такіх выпадках я прашу жонку зрабіць масажык, і ўсё праходзіць.

— А калі ваша жонка бывае свабодная?

* * *

Дзяўчына, якая выпісваецца з бальніцы пасля аперацыі апендыцыту, пытаецца ў хірурга:

— Скажыце, калі ласка, ці будзе відаць месца разрэза?

— Гэта залежыць выключна ад вас, — адказаў лекар.

* * *

Медыцынская сястра каціць каляску з пацыентам па бальнічным калідоры. Хворы жаласліва просіць:

— А можа лепш у аддзяленне рэанімацыі?

Сястра сярдзіта адказвае:

— Хворы, вы не займайцеся самалячэннем. Лекар сказаў у морг, значыць — у морг!

*Даслаў Валеры Бабей з Менска*

# ВОРАГ

Пільна сочачы за нашымі надзвычайнымі пераменамі, Іван Фядотавіч чакаў аднаго: на той момант, калі ўрэшце замоўкне яго найбольшы вораг.

А самым вялікім ворагам Івана Фядотавіча быў бляшаны гучнагаварыцель, які вісеў на стаўбе. Ужо многія, многія гады пунктуальна а пятай гадзіне выкідваў ён з сябе хрып на сто ват і будзіў усю вуліцу пранізлівым жаночым голасам:

— Таварышкі і таварышы! Пара ўставаць на працу! Наперад, на барацьбу за светлае сацыялістычнае заўтра! Урааааа!

Усё, што прайшоў Іван Фядотавіч у сваім доўгім жыцці: дзетдом, голад у трыццатым, вайна, дзесяць гадоў у лагерах — здавалася яму драбязой у параўнанні з гэтай штодзённай пакутай. Гучнагаварыцель не даваў спакою, аглушваў, трапаў нервы, а яго праціўная чорная пашча смяялася проста ў акно пакоя.

А потым стрымгалоў пайшлі здарэнні. З магазінаў прапалі тавары, пасля КДБ, партыя і ўвесь Савецкі Саюз.

Іван Фядотавіч чакаў. Рускі народ чакаць умее...

І прыйшоў той дзень, калі гучнагаварыцель не меў ужо права адазвацца. Іван Фядотавіч устаў а чацвёртай раніцы, апрануў святочны касцюм, адкрыў акно і з помслівым задавальненнем угледзеўся ў свайго ворага.

Гадзіннік выбіў пяць.

Іван Фядотавіч урачыста наліў сабе шклянэчку гарэлкі.

Шклянка выляцела яму з рук.

Гучнагаварыцель прахрыпеў знаёмым голасам:

— Шаноўныя спадарыні і спадары! Вам неабавязкова ўставаць на працу, ні змагацца за светлае сацыялістычнае заўтра! Урааааа!

**СЦЯПАН ХАІМАЎ**

*„Karuzela"*

### А Ў ГАСЦЯХ

*Музыка Д. Яўтуховіча*
*Верш В. Шніпа*

Я мо зачаста сумаваў,
Не меў прычын для весялосці.
Малодшы брат і той казаў:
„Гані свой сум, збірайся ў госці".
З мяне смяяліся: „Танцуй, браток,
Гармонік заспявае".
— Вы паглядзіце, хто ігрок,
Чыю ён музыку іграе.

**ПРЫПЕЎ:**

А ў гасцях, а ў гасцях — шум і тлум.
Ты не сват, ты не сват, ты не кум.
А як маеш грошы, дык і сам харошы...
А ў гасцях, а ў гасцях — шум і тлум.
Ты не сват, ты не сват, ты не кум.

Я нікуды не хадзіў,
Няхай другія весяляцца.
— Чаго ты дома ўсё сядзіш?
— Што па гасцях, браток, бадзяцца.

**ПРЫПЕЎ:**




************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- marzec – 15 000 zł.
– kwiecień – 12 000 zł.
– maj – 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.